Адна зямля





# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

11 лістапада 2016 года №46 (1124)




# У Маладзечанскім раёне адкрываюць дом для састарэлых



Фота suttoninhomeseniorcare.com

**Каб аддзяленне пачало працаваць, не хапае каля 30 000 рублёў.**

**Адкрыты дабрачынны рахунак.**

старонка 2

## Прызначылі новага дырэктара гімназіі "Логас"

ВІЛЕЙКА

Ад 8 лістапада новым дырэктарам гімназіі стаў **Аляксандр Воўк**. Ён скончыў Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Машэрава, Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце.

Ад 2013 года быў дырэктарам вучэбна-педагагічнага комплексу "Дзіцячы сад-базавая школа" ў Асіпавічах на Вілейшчыне.

Былая дырэктар гімназіі **Наталля Жыбуль** стала дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі шостага склікання.

Пра гэта расказала спецыяліст па кадрах Вілейскага аддзела адукацыі, спорту і турызму **Алена Рослік**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Выратавальнікі з Міншчыны выбралі лепшыя шматдзетныя сем'і

У Палацы культуры Маладзечна прайшоў трэці абласны агляд-конкурс сярод шматдзетных сем'яў работнікаў органаў і падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях "Мама, тата, я – МНСцаў сям'я".

Адну з намінацый, "Візітная картка", прадставілі ў фармаце відэароліка. За лепшы відэасюжэт потым можна было прагаласаваць на афіцыйнай старонцы Мінскага абласнога ўпраўлення МНС "Укантакце". Па выніках галасавання прыз сімпатый гледачоў атрымала сям'я **Тарасевічаў** з Валожынскага раёна.

Падвялі таксама вынікі ўсяго агляду-конкурсу. Перамагла ў ім сям'я **Сівак** з Жодзіна, паведамляе абласное ўпраўленне. Ад нашага рэгіёна найлепшы вынік – у сям'і **Місевічаў** з Маладзечаншчыны. Яны падзялілі трэцяе месца.

**Аддзел інфармацыі.**

## Да юбілею Марыі Захарэвіч

МЯДЗЕЛ

Дзве новыя выставы пачаліся ў лістападзе ў Мядзельскім музеі народнай славы. Адна з іх пад назвай "І ўзышла над Беларуссю зоркай ...", прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння землячкі народнай артысткі Беларусі **Марыі Захарэвіч**. На выставе з фондаў музея ёсць фатаграфіі з жыцця, сцэнічных выступленняў народнай артысткі, а таксама артыкулы з перыядычных выданняў пра яе жыццё і творчасць, успаміны стрыечнай сястры Ганны, паведамляе сайт Мядзельскага райвыканкама.



Марыя Захарэвіч нарадзілася 21 лістапада 1936 года ў вёсцы Навасёлкі ля Мядзела.

Другая выстава – "Лялька: абярог, гульня, памяць". На ёй можна пабачыць разнастайныя лялькі з фондаў клуба фальклорнай і народнай лялькі "Папараць-кветка" з Мінска. Сярод іх ёсць лялькі, сабраныя падчас этнаграфічных экспедыцый у Беларусі, аўтарскія лялькі.

**Аддзел інфармацыі.**

## У школах рэгіёна з'явіцца факультатыў па шахматах

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

У 15 школах Міншчыны ў вучняў пачатковых класаў з'явіліся факультатыўныя заняткі па шахматах.

Для таго, каб арганізаваць такія факультатывы ў школах, педагогі вывучалі методыку выкладання шахматаў для малодшых школьнікаў. Навучанне арганізавалі Беларуская федэрацыя шахматаў і Рэспубліканскі цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі па шахматах і шашках.

Спасцігнуць шахматы вучні змогуць ў 2 і 14 школах Маладзечна, у Чысцінскай школе і ў вілейскай гімназіі "Логас".

**Паводле БелТА.**

ТЭМА НУМАРА

# Пад Маладзечнам адкрываюць дом для састарэлых

МАЛАДЗЕЧНА

**Кругласутачнае аддзяленне для старых і інвалідаў плануюць адкрыць у Маладзечанскім раёне 1 снежня.**



Фота Наталлі ТУР.

Калі ўсё атрымаецца, першыя жыхары заедуць у аддзяленне 1 снежня. На здымку Дзмітры Ганчар.

Аддзяленне адкрыецца на месцы дзіцячага садка ў пасёлку Сасновы Бор. Яно разлічанае на 23 месцы.

Але ўжо сёння ахвотных каля 30 чалавек.

– Аддзяленне працуе па заяўніцкім прынцыпе, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" дырэктар Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва **Дзмітры Ганчар**. – Перавагу мы аддаём адзінокім людзям, якія жывуць у аддаленых населеных пунктах або ў горадзе ў кватэрах без выгодаў.

Як толькі аддзяленне адкрыецца, у яго засяляцца 12 жанчын і 5 мужчын.

Сёння рамонт у цэнтры завершаны, закуплена абсталяванне для кухні, для ванных пакояў. Аднак ложкаў у аддзяленні пакуль няма.

– Каб іх закупіць і канчаткова падрыхтаваць цэнтр да адкрыцця, неабходна каля 30000 рублёў (або 300 мільёнаў недэнамінаваных рублёў).

Каб сабраць неабходную суму, цэнтр адкрыў дабрачынны рахунак.

**Дабрачынны рахунак: р/р 3135440930021 у РКЦ №32 у г. Маладзечна філіяла Мінскага абласнога ўпраўлення "Белаграпрамбанк", код 942, УНП 690295922.**

– У аддзяленні, – расказвае Дзмітры Ганчар, – абстаноўка будзе набліжаная да дамашняй.

Тут будуць працаваць гурткі, у агульным пакоі можна будзе паглядзець тэлевізар. Таксама за інвалідамі і пенсіянерамі круглыя суткі будуць даглядаць спецыялісты: медсястра і малодшыя медыцынскія супрацоўнікі.

У пакоях будуць жыць па шэсць чалавек.

– Магчыма, мы нешта памяняем, бо, як вы ведаеце, мужчын сталага ўзросту значна менш, чым жанчын, – дадае дырэктар цэнтра.

З тымі, хто будзе жыць у аддзяленні, цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва заключае дагавор. Самы кароткі тэрмін дагавора – месяц, максімум – паўгода.

– Калі тэрмін дагавора закончыцца, яго можна будзе працягнуць або скасаваць.

Каштаваць пражыванне ў аддзяленні будзе 85% ад пенсіі альбо ад дапамогі па інваліднасці для адзінокіх людзей. Для тых пенсіянераў і інвалідаў, у якіх ёсць працаздольныя сваякі, 80% ад пенсіі і даплата ад сваякоў, каб канчатковая сума стала 450 рублёў.

З адкрыццём аддзялення ў Маладзечне з'явіцца 25 працоўных месцаў, або 13,5 стаўкі.

– Штат пакуль не набраны, – расказвае Дзмітры Ганчар. – Ёсць патрэба ў наступных вакансіях: загадчыца, санітаркі, медсястра, работнікі харчовага блока. Гурткі будуць весці валанцёры або нашы работнікі.



Фота Наталлі ТУР.

Рамонт у аддзяленні амаль завершаны. Засталося дакупіць мэблю.

У Мінскай вобласці падобных аддзяленняў – шэсць. Яны ёсць у Любані, Барысаве, Мядзеле.

Загадчыца Мядзельскага аддзялення кругласутачнага знаходжання грамадзян **Бярнарда Макоска** расказала, што іх аддзяленне працуе ад 2009 года.

– За гэты час праз нашы рукі прайшлі 110 чалавек. Хтосьці з'язджае, хтосьці, на жаль, памірае.

Аддзяленне ў Мядзеле разлічанае на 30 чалавек.

– Сёння ў нас жывуць 23 чалавекі. Мужчын і жанчын прыкладна пароўну.

У пакоях жывуць па чатыры чалавекі.

– Ёсць у нас і пакой павышанай камфортнасці. Гэта як асобная аднапакаёвая кватэра. Яна таксама карыстаецца папулярнасцю. Не так даўно яе займаў ветэран, у якога пенсія была 9,5 мільёна рублёў. Ён захацеў жыць асобна. У кошт знаходжання ўключанае і медыцынскае абслугоўванне, і чатырохразовае харчаванне.

Каб патрапіць у лік жыхароў аддзялення, неабходна запоўніць заяву, прынесці медыцынскую карту, даведку аб складзе сям'і і месцы жыхарства, пашпарт.

– Толькі жыхары Мядзельскага раёна могуць быць нашымі пастаяльцамі, – падсумавала Бярнарда Макоска.

Калі ў вас узніклі пытанні наконт аддзялення кругласутачнага знаходжання ў Маладзечне, вы можаце іх задаць па тэлефоне **8-0176- 77-17-62**.

**Наталля ТУР.**



Здаровая канкурэнцыя на карысць не толькі спажыўцам, але і самім прадпрымальнікам. Яна падсцёбвае ўвесь час быць лепшымі і яшчэ лепшымі. Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

# Каму трэба, каб ІП квітнелі

## За дзевяць месяцаў у краіне паменела на 4,5 тысячы прадпрымальнікаў

**Колькасць індывідуальных прадпрымальнікаў працягвае скарачацца.**

На 1 кастрычніка ў Беларусі зарэгістравана больш за 250 тысяч ІП. Гэта на 1,9% менш, чым было на 1 студзеня, і на 3,2% менш за паказчык на леташняе 1 кастрычніка.

Такія звесткі дае Белстат у бюлетэні "Сацыяльна-эканамічнае становішча Рэспублікі Беларусь" за студзень-верасень 2016.

За дзевяць месяцаў сёлета зарэгістравалі 26 754 прадпрымальнікаў, а спынілі дзейнасць 31 249.

Такім чынам, агульная колькасць ІП за гэты перыяд зменшылася прыкладна на 4,5 тысячы.

### А ў Вілейцы рост

Вілейскія прадпрымальнікі не падпарадкоўваюцца агульнай статыстыцы: за год тут прырост на 18 ІП.

Падрабязней пра сітуацыю распавяла вядучы спецыяліст сектара гандлю аддзела эканомікі **Марына Шалюта**.

На выключэнне са спісу падалі 95 чалавек. А зарэгістравалі 113 новых прадпрымальнікаў. Большасць з іх мае на мэце дзейнасць, звязаную з гандлем ці будоўляй.

### Кліенту важна адно: каб было танна

Як сябе адчуваюць на сённяшнім рынку самі прадпрымальнікі? Супрацоўніца маладзечанскай фірмы, што спецыялізуецца на вокнах і мэблі, **Аляксандра Высоцкая** адзначыла:

– Каб зачыняліся ІП кагосьці з канкурэнтаў, то такіх не ведаю. Што тычыцца нас, то заказаў стала менш. Вельмі мала кліентаў, якія заказваюць больш дарагія варыянты мадэляў. Галоўны крытэрый для пакупніка – каб было танна. І пры гэтым спажыўцы актыўна карыстаюцца крэдытамі ці растэрмінoўкай. Прыблізна 80% кліентаў складана аплаціць заказ адразу.

### Спажывец: танна – гэта яшчэ не добра

Маладзечанка **Ганна Сарока** – гаспадыня і маці траіх дзяцей. Жанчына сходу называе хібы змяншэння колькасці прадпрымальнікаў:

– Безумоўна, гэта адразу адбіваецца на спажыўцы. Губляем выбар і па цэнах, і па якасці. У мяне, напрыклад, няма магчымасці ездзіць па пакупкі ў Мінск. Таму даводзіцца выбіраць з таго, што прапануюць у родным горадзе. І часта выбіраю, што ёсць, а не што хочацца. Пры гэтым нярэдка застаюся незадаволенай ні цэнамі, ні якасцю, ні асартыментам. Падчас выбару пакупкі арыентавацца толькі на тое, каб было танна, – таксама не выйсце, вы што. Танна, дапусцім, можна з Кітая нешта заказаць. Але ж для сям'і хочацца набываць якаснае. Як кажуць, мы не настолькі багатыя, каб купляць таннае.

З ёй згодная віляйчанка **Дар'я Гладкая**:

– Стала складана знаходзіць патрэбны тавар. Выбару практычна няма. Набываць у дзяржаўных крамах можна, але цэны там надта высокія.

Зоя ХРУЦКАЯ.

● КАМЕНТАР

### Прагназуем, што сёлета колькасць ІП не дагоніць мінулагодні ўзровень

Заўважны спад у прадпрымальніцтве адбыўся ў 2011 годзе. Той год запомніўся ростам цэн, зніжэннем пакупніцкай здольнасці і больш чым 50% дэвальвацыяй рубля. У народзе такія эканамічныя з'явы называлі фінансавым крызісам, афіцыйна прычынай складанасці патлумачылі ажыятажам на валюту.

Аналізуючы статыстыку Белстата, відаць, што сёлета ўзровень не пакажа значны рост. Найверагодна, што лічба на канец года будзе меншай за леташні ўзровень. У дыяграме скарыстаныя дадзеныя па краіне ад Белстата.

**Колькасць ІП па гадах**




| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 3.11 | 10.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9042 | 1,9083 |
| Еўра | 2,1078 | 2,1332 |
| Злоты, 10 | 4,8534 | 4,8655 |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0141 | 2,9820 |
| Грыўня, 100 | 7,4419 | 7,4585 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 2.11 і 9.11** | | |
| Еўра | 2.0800/2.1200 | 2.0900/2.1340 |
| Долар ЗША | 1.8900/1.9080 | 1.8900/1.9100 |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 2.11 | | 9.11 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 62 000 | 6,20 | 71 300 | 7,13 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 36 500 | 3,65 | 36 500 | 3,65 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | 7,50 | 75 000 | 7,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | 13,50 | 135 000 | 13,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 500 | 1,55 | 15 500 | 1,55 |
| Грэчка, 0,8 кг | 23 500 | 2,35 | 23 500 | 2,35 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 14 000 | 1,40 | 14 000 | 1,40 |
| Алей "Фермер", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 500 | 0,65 | 6 500 | 0,65 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 45 000 | 4,50 | 45 000 | 4,50 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 900 | 0,59 | 5 900 | 0,59 |
| Часнок, 1 кг | 69 900 | 6,99 | 69 900 | 6,99 |
| Капуста, 1 кг | 2 500 | 0,25 | 2 500 | 0,25 |
| Морква, 1 кг | 4 900 | 0,49 | 4 900 | 0,49 |
| Баклажаны, 1 кг | 13 900 | 1,39 | 60 000 | 6,00 |
| Лімоны, 1 кг | 37 000 | 3,70 | 33 000 | 3,30 |
| Апельсіны, 1 кг | 38 500 | 3,85 | 29 900 | 2,99 |
| Мандарыны, 1 кг | 36 900 | 3,69 | 29 900 | 2,99 |
| Гранаты, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 29 500 | 2,95 |
| Ківі, 1 кг | 32 500 | 3,25 | 32 500 | 3,25 |
| Буракі, 1 кг | 3 500 | 0,35 | 4 000 | 0,40 |
| Памідоры, 1 кг | 19 500 | 1,95 | 19 500 | 1,95 |
| Агуркі, 1 кг | 26 900 | 2,69 | 23 000 | 2,30 |
| Перац, 1 кг | 16 000 | 1,60 | 39 500 | 3,95 |
| Кавун, 1 кг | 6 000 | 0,60 | 6 000 | 0,60 |
| Грэйпфрут, 1 кг | 34 100 | 3,41 | 34 500 | 3,45 |
| Вінаград, 1 кг | 27 000 | 2,70 | 33 000 | 3,30 |
| Бананы, 1 кг | 19 900 | 1,99 | 20 900 | 2,09 |
| Яблыкі, 1 кг | 11 500 | 1,15 | 9 900 | 0,99 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 28 500 | 2,85 | 24 900 | 2,49 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 110 000 | 11,00 | 110 000 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 3 000 | 0,30 | 2 500 | 0,25 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 30 000 | 3,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

## Маладзечна ўвайшло ў топ самых дарагіх гарадоў Беларусі

МАЛАДЗЕЧНА

Партал Realt.by апублікаваў дадзеныя аб цэнах на нерухомасць у беларускіх гарадах у верасні 2016 года.

Маладзечна знаходзіцца на чацвертым месцы пасля Мінска, Салігорска і Гродна. Цана жылля тут – 643 долары за квадратны метр.

Для рынкаў жылля ў рэгіёне характэрная сезоннасць. У чацвертым квартале попыт звычайна максімальны.

Аддзел інфармацыі паводле Realt.by

НАВІНЫ

## Знайшлі кіроўцу, які насмерць збіў жанчыну на Смаргоншчыне

СМАРГОНЬ

4 лістапада прыкладна ў 19:05 на 1-м кіламетры аўтадарогі "Смаргонь-Дзявятні-Жодзішкі" аўтамабіль збіў жанчыну. Кіроўца ўцёк з месца здарэння.

У выніку пенсіянерка 1947 года нараджэння памерла да прыбыцця медыкаў.

Траўмы не целе жанчыны ўказвалі на тое, што ДТЗ, хутчэй за ўсё, здзейсніў грузавы аўтамабіль.

Падчас аператыўных мерапрыемстваў устанавілі некалькі падазраваных. Аднаго з іх спынілі на цягачы "Сканія" з расійскімі рэгістрацыйнымі знакамі ў Магілёве. Цыстэрну да гэтага часу кіроўца адключыў і пакінуў, каб было зручней і лягчэй перамяшчацца.

Далейшая праверка пераканала, што менавіта гэты аўтамабіль наехаў на жанчыну.

Кіроўца – жыхар Магілёўскага раёна 1983 года нараджэння. Раней ён прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за кіраванне ў стане ап'янення, пасля – за кіраванне "без правоў". На момант здарэння тэрмін пазбаўлення мінуў.

Цяпер яму пагражае крымінальная адказнасць.

**Паводле Гродзенскай ДАІ.**

## У Ашмянскім раёне загінуў дальнабойнік

АШМЯНЫ

У Ашмянскім раёне ўвечары 2 лістапада ў ДТЗ загінуў кіроўца вялікагрузу, паведамілі ў ДАІ УУС Гродзенскага аблвыканкама.

– Кіроўца пры выбары хуткасці не ўлічыў асаблівасці свайго аўтапоезда "ДАФ" і транспартаванага грузу, у выніку чаго перакуліўся. Ад атрыманых траўмаў дальнабойнік памёр на месцы здарэння да прыезду брыгады "хуткай дапамогі", – распавялі ў ДАІ.

Дзяржаўтаінспекцыя высвятляе абставіны здарэння.

**Паводле Гродзенскай ДАІ.**

## Паведаміце пра незаконны алкаголь

МАЛАДЗЕЧНА

Цягам апошніх дзесяцігоддзяў у Беларусі распаўсюджваецца п'янства, расце колькасць чалавек на наркалагічным кантролі, ахвяр алкагалізму. Многія спажываюць самагон. Іх не пужаюць магчымыя трагічныя наступствы спажывання фальсіфікаванага алкаголю і самагону.

Калі вам вядома пра незаконныя выраб ці продаж спіртаўтрымальных вадкасцяў, просім паведаміць па тэлефоне **(8029) 863-70-46.**

За парушэнне антыалкагольнага заканадаўства прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць.

**Сяргей ВАСІЛЕЎСКІ,**
**інспектар прапаганды**
**Маладзечанскага аддзела**
**ўнутраных спраў**
**на транспарце.**

## У Алёхнавічах скралі гарэлку

МАЛАДЗЕЧНА

Прадавец магазіна ў Алёхнавічах звярнулася ў райаддзел міліцыі днём 7 лістапада.

28-гадовая жанчына патлумачыла, што за 15 хвілін да званка невядомы са стэлажа крамы адкрыта скраў дзве бутэлькі гарэлкі. Агульная цана скрадзенага каля 20 рублёў.

Дзякуючы камеры відэаназірання апазналі падазраванага. Ім аказаўся 24-гадовы раней судзімы мясцовы жыхар.

Райаддзел Следчага камітэта узбудзіў крымінальную справу.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



# У аварыі на Вілейшчыне загінула немаўля

ВІЛЕЙКА

**6 лістапада на Вілейшчыне ля вёскі Ізбіно кіроўца БМВ пратараніў дзіцячую каляску, якую везла маладая жанчына.**

Пяцімесячны хлопчык памёр ад траўмаў у бальніцы. У мамы нязначныя цялесныя пашкоджанні.

Жанчына ішла з каляскай па левым краі дарогі насустрач руху.

У гэты час машына, аб'язджаючы няроўнасць на дарозе, выехала на сустрэчную паласу і пратараніла каляску.

Кіроўца спыніўся, разам з пацярпелай яны адвезлі дзіця ў бальніцу. Тут увечары 6 лістапада хлопчык памёр.

Здарэнне адбылося ў цёмны час сутак. Але дарога была асветленая ліхтарамі.

Па інфармацыі Следчага камітэта, кіроўца – жыхар Вілейкі. Яму 26 гадоў. Па папярэдніх дадзеных, мужчына быў цвярозы.

Праводзіцца праверка тэхнічнага стану і хуткасці аўтамабіля ў момант наезду.

Узбуджаная крымінальная справа.

Пра гэта расказалі ў Вілейскім Следчым камітэце.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота by24.org

Дарожна-транспартнае здарэнне ў Вілейцы стала трагедыяй – загінуў пяцімесячны хлопчык.

## Паведаміць у міліцыю пра праблемы пажылых людзей будзе яшчэ прасцей

**Новую форму працы па ўзаемадзеянні з пажылымі людзьмі ладзіць Упраўленне ўнутраных спраў Мінскага аблвыканкама сумесна з Мінскім філіялам "Белпошты".**

У лістападзе і снежні паведаміць у міліцыю аб любых супрацьпраўных дзеяннях у дачыненні да людзей сталага ўзросту можна будзе абсалютна ананімна, скарыстаўшыся любой паштовай скрыняй на тэрыторыі Мінскай вобласці.

Дастаткова проста апусціць у паштовую скрыню паведамленне на паперы. І гэта пасланне ў самыя кароткія тэрміны дойдзе да аддзела міліцыі без канверта і паштовай маркі.

У адпраўленым такім чынам паведамленні павінна быць інфармацыя аб характары правапарушэння, адрасе таго, што адбылося, вітаецца і іншая інфармацыя.

Як распавяла старшы інспектар аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі міліцыі грамадскай бяспекі Маладзечанскага РАУС **Таццяна Шытыка**, дадзеная форма ўзаемадзеяння з грамадзянамі даступная, простая і ананімная, таму можна разлічваць на яе эфектыўнасць.

Па розных прычынах не заўсёды пажылы сельскі жыхар мае магчымасць патэлефанаваць у міліцыю і паведаміць аб тым, што яго тэрцыруе сын-алкаголік, адбіраючы апошнія грошы на чарговую бутэльку спіртнога.

Паштовыя скрыні ёсць практычна ва ўсіх населеных пунктах вобласці, вымаецца карэспандэнцыя сістэматычна ў любую пару года і строга па графіку, і ад грамадзяніна не патрабуецца якіх-небудзь фінансавых выдаткаў.

– Не ва ўсіх ёсць сучасныя сродкі сувязі, да таго ж пажылым людзям скарыстацца паштовай скрыняй больш звыкла і зручна, – адзначыла Таццяна Шытыка.

У Мінскай вобласці сёлета ад розных злачынстваў пацярпела больш за 900 пенсіянераў. 27 чалавек сталага веку загінулі, прычым сем асабліва цяжкіх злачынстваў здзейснены ў сферы сямейна-бытавых адносін.

Па выніках працы за дзевяць месяцаў 2016 года на тэрыторыі Маладзечанскага раёна назіраецца рост злачынстваў, зарэгістраваных у сельскай мясцовасці, у іх ліку злачынствы ў дачыненні да асоб, якія дасягнулі пенсійнага ўзросту.

На тэрыторыі сельскай мясцовасці зарэгістраванае 421 злачынства.

У дачыненні да асоб, якія дасягнулі пенсійнага ўзросту, здзейснены 153 злачынствы.

Асноўную частку злачынстваў складаюць крадзяжы, пераважна гэта крадзяжы з садовых таварыстваў і дачных дамоў.

– Міліцыю цікавіць любая інфармацыя аб правапарушэннях, якія здзяйсняюцца ў дачыненні да пажылых асоб. Прычым такім спосабам да нас могуць звяртацца не толькі самі пажылыя людзі, але іх неабыякавыя суседзі, сваякі, знаёмыя. Усе паведамленні мы будзем правяраць і рэагаваць на іх, – падкрэсліла Таццяна Шытыка.

З паштовымі работнікамі распрацаваны дакладны алгарытм працы. Пасля таго, як вымуць карэспандэнцыю, прадстаўнікі пошты усе запісы будуць перадаваць кіраўніцтву Маладзечанскага РАУС для аператыўнай праверкі.

Міліцыя Маладзечанскага РАУС звяртаецца да насельніцтва з просьбай падтрымаць прапанаваную ініцыятыву, не заставацца абыякавымі да праблем пажылых людзей.

**Аддзел інфармацыі.**

УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць зніклую прадавачку яблык

СМАРГОНЬ, МАЛАДЗЕЧНА

**Смаргонскі РАУС шукае зніклую Ірыну Васілеўну Пятрушу.**



Яна нарадзілася 9 лютага 1962 года, 54 гады. Раней жыла ў вёсцы Нястанішкі Смаргонскага раёна.

Каля шасці раніцы 4 красавіка 1999 года яна выехала з дому ў Смаргонь па прадукты. Пасля гэтага перастала падаваць пра сябе весткі.

У 2011 і 2014 гадах, а таксама сёлета знаёмыя бачылі Ірыну ў Маладзечне на чыгуначным і аўтавакзале. Бачылі і на маладзечанскім прадуктовым рынку каля Цэнтральнай плошчы, дзе яна прадавала яблыкі. Яна распавядала, што жыве ў вёсцы пад Маладзечнам з мужчынам.

Калі ласка, калі штосьці ведаеце пра месцазнаходжанне гэтай жанчыны, паведаміце ў Смаргонскі РАУС па тэлефонах: **(801592) 3-12-77, 3-14-42, (8044) 725-24-28.**

**Паводле паведамлення Смаргонскага райаддзела ўнутраных спраў.**

# З віртуальнага свету ў рэальны: у Вілейцы адкрылі фотавыставу Міхаіла Куляша



Фота Ігара МАРОЗА.

Фотамастак Міхаіл Кулеш: Мой прынцып – бачыць прыгожае і фатаграфаваць.



Фота забяспечанае Міхаілам КУЛЯШОМ.

Фотамастак у пошуках удалага кадра.

ВІЛЕЙКА

**“www.michas.by. 2016” – такую незвычайную назву мае выстава фатографа Міхаіла Куляша, адкрытая 8 лістапада ў выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча ў Вілейцы.**

Па словах фатографа, з аднаго боку такая назва – даніна сучаснасці. З іншага – разгляд выставы як магчымасці перанесці свае працы з анлайн-прасторы ў рэальны свет. Бо першапачаткова ўсе здымкі Міхаіла з'яўляюцца ў інтэрнэце.

Спачатку, прызнаецца фатограф, ён планаваў выстаўляць толькі каляровыя пейзажы. Але параіўшыся з вілейскім мастаком **Эдуардам Мацюшонкам**, вырашыў зрабіць выставу больш разнастайнай.

Таму наведнікі змаглі ўбачыць каляровыя і чорна-белыя здымкі, звяроў і птушак, вясковыя пейзажы і гарадскія краявіды. А яшчэ, прызнаўся фатограф, яму вельмі падабаецца здымаць горы. У свой час фотамастака вельмі натхніла падарожжа на Карпаты.

І родная Вілейка, па словах Міхася, яго заўсёды натхняла. На фотаздымках, паказаных на выставе, – родны горад і наваколле, берагі Віліі і Вілейскае вадасховішча ў розныя поры года, касцёл на Цэнтральнай плошчы і панарама горада.

Але тут, у невялікім раённым цэнтры, Міхась часам адчувае сябе адарваным ад “вялікага” творчага жыцця. Прызнаецца, што ў Вілейцы хацелася б большай супольнасці калег і аднадумцаў.

Фатаграфіяй мужчына захапляецца ўжо даўно. А ці здараліся за гэты час у яго творчыя крызісы? Своеасаблівым крызісам, лічыць фатограф, можна лічыць летнія месяцы.

Лета – традыцыйны час вяселляў. Таму за здымкай урачыстасцяў Міхаілу не заўсёды хапае часу паздымаць для душы.

Адкрыццё выставы адбылося ў форме літаратурна-музычнай імпрэзы. Прыйшлі настаўнікі і вучні гарадскіх школ, вілейскія творцы і краязнаўцы, сябры і сваякі Міхася.

Уласныя песні для гледачоў праспявалі вілейчане барды **Уладзімір Цанунін** і **Алесь Наркевіч**.

Навуковы супрацоўнік музея **Надзея Аўдзей** звярнула ўвагу на тое, што Міхась Кулеш – не проста фатограф, а фотамастак. Яго працы – гэта мастацкія фотаздымкі. Нездарма Міхась прызнаўся, што калі б не стаў фатаграфаваць, то быў бы мастаком.

– Спяшаючыся на працу, мы не заўсёды можам убачыць прыгажосць роднай прыроды. Не звяртаем увагі на захады і ўсходы. А фотаздымкі Міхася даюць нам гэтую магчымасць, – падзялілася сваімі назіраннямі Надзея Аўдзей.

Выстава Міхаіла першая для яго, але не апошняя, упэўненая яна.

І фотамастак прызнаўся, што ад сваёй першай выставы ён чакае працягу.

– Ці маеце вы нейкія асаблівыя прынцыпы, якімі кіруецеся ў творчасці? – пытаюся ў вілейскага фотамастака.

– Ніякіх, – адказаў Міхаіл. – Адзіны мой прынцып – бачыць прыгожае і фатаграфаваць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

**Даведка “РГ”: Міхаіл Кулеш** нарадзіўся ў 1982 годзе ў Вілейцы. Скончыў сярэднюю школу №4 (цяпер гімназія №2). Захапляўся маляваннем, разьбой па дрэве, камп'ютарнай графікай, фатаграфаваннем. Цяпер вядомы ў Вілейцы мастак-фатограф. Яго здымкі можна пабачыць у прасторы інтэрнэта, на календары, выпушчаным да 100-годдзя Вілейскага касцёла. Шмат фатаграфій у наборы паштовак “Спадчына Вілейшчыны” і іншых выданнях. Вядомы Міхаіл і як мастак-афарміцель розных буклетаў і іншай друкаванай прадукцыі.

Навучаўся на журналісцкіх курсах у Польшчы і ва Украіне, удзельнічаў у семінарах па фотажурналістыцы, арганізаваных Беларускай асацыяцыяй журналістаў.

У 2012 годзе скончыў курсы па мастацкай фатаграфіі пры Саюзе дызайнераў Беларусі па дысцыпліне “фармальная кампазіцыя” і “мастацкае фота”. Гэтыя курсы сталі адпраўным пунктам у свет мастацкай фатаграфіі.

Удзельнічаў у некалькіх конкурсах. Па выніках аднаго з іх быў узнагароджаны бясплатным навучаннем на працягу 2014-2015 года ў Міжнародней анлайн-школе ў рамках праекта “Увага, усмешку!”. Паспяхова прайшоў адукацыйны курс на міжнародным семінары “Тэхналогіі, тэндэнцыі і метады ў сучаснай фатаграфіі” ў рамках праграмы Усходняга партнёрства “Культура” і 2-га Мінскага фестывалю фатаграфіі.

# Прэм'ера спектакля: "Дыягназ-каханне" – захаваць гонар ці захаваць сям'ю

**МАЛАДЗЕЧНА**

**5 лістапада на сцэне Мінскага абласнога драматычнага тэатра адбылася прэм'ера спектакля "Дыягназ – каханне".**

Спектакль прымушае задумацца пра многае: ці можна дараваць здраду, ці можа ўратаваць дзіця сям'ю, жанчына, якая даруе ўсё, – святая або проста дурніца?

Адказы на гэтыя пытанні мы шукалі разам з выканаўцай галоўнай ролі актрысай **Людмілай Рошчынай.**

Мінскі абласны драматычны тэатр ударыўся ў каханне. Вясной маладзечанскі глядач убачыў гісторыю пра каханне "Плачу наперад!" Восенню – новая гісторыя.

– П'есу **Андрэя Максімава** прапанавала я, – расказвае Людміла Рошчына. – Я даўно цікаўлюся псіхалогіяй, тым больш цяпер, калі майму сыну споўнілася 19 гадоў. І вось прачытала гэту п'есу, якая, дарэчы, была напісаная каля 25 год таму. Але я палічыла, што яна сучасная, што праблемы, якія ў ёй уздымаюцца, могуць закрануць кожнага.

У цэнтры гісторыі класічны любоўны трохкутнік. Праз 10 год, па версіі мужа – 9, сямейнага жыцця муж заводзіць сабе маладую палюбоўніцу.

Але не хавае гэтага ад жонкі, а наадварот, расказвае ёй ва ўсіх падрабязнасцях і пра палюбоўніцу, і пра тое, што жыве яна з братамі і бацькам. Скардзіцца на тое, што ім няма дзе сустракацца.

Калі ў чарговы раз муж са спаткання прыйшоў прастуджаны, жонка яго лечыць. Калі ён вяртаецца п'яным – кладзе яго спаць, здымае з ног туфлі.

І вось яна рашаецца запрасіць яго з палюбоўніцай на каву. А потым увогуле пакідае іх жыць у сваёй кватэры.

Маладая палюбоўніца не ўмее гатаваць, не ўмее прасаваць адзенне. І ўсе абавязкі па доме моўчкі выконвае гераіня Людмілы Рошчынай.

Шчыра кажучы, так хацелася, каб у канцы спектакля гэта жанчына ўзбрыкнула, паказала тое, што яна таксама жывы чалавек і мае права на шчасце, каб кінула і мужа-нягодніка разам з яго новым каханнем, каб ён зразумеў, што страціў, і каб было позна.

Але Людміла Рошчына мае парывы перарывае фразай:

> **– Гэты спектакль, на маю думку, пра ўсёдараванне. Пра ўменне дараваць здраду, не крыўдзіцца на блізкага чалавека. Пра ўменне слухаць і гаварыць адно з адным.**

Гераіню сваю Людміла Рошчына апраўдвае:

– Ведаеце, мне 50 гадоў, і я ўсё больш схіляюся да таго, што трэба дараваць. У наступным годзе мы з мужам будзем адзначаць 30-годдзе сумеснага жыцця. Канешне, здаралася і такое, што хацелася развесціся, больш не бачыць адно аднаго. Але потым разумела, што невыпадкова нас звёў лёс, невыпадкова бог з гэтым чалавек нам падарыў дзяцей.

Калі Людміла Рошчына знайшла п'есу, то вельмі хацелася, каб яе паставіла даўняя сяброўка, актрыса Мінскага абласнога драмтэатра **Алена Рахмангулава.**

– Алена – дзівосны чалавек! Я бачыла яе работы ў гімназіі-каледжы, дзе яна выкладае, і ўгаворвала яе ўзяцца за гэту п'есу. Я ведала, што дзякуючы Алене спектакль атрымаецца пластычным, сучасным, зразумелым моладзі, у яго будзе свой "почырк".

Партнёрам і сцэнічным мужам Людмілы Рошчынай у спектаклі стаў **Дзяніс Фешчанка.**

– Я вельмі ўдзячная майму партнёру за працу ў гэтым спектаклі. Фактура Дзяніса сыграла толькі ў плюс. І сам ён для спектакля – поўны папандос. Як гераіня называе яго прыгажуном? А які ён пластычны, лёгкі! У Дзяніса самога трое дзяцей, таму ён ведае цану сям'і. Можа, таму яго маналог у канцы спектакля атрымаўся такім кранальным.

Зноў не пагаджаюся з Людмілай Рошчынай.







Калі даравць блізкаму чалавеку здраду, можна стаць шчаслівай, лічыць актрыса.




Галоўныя ролі ў спектаклі выканалі Людміла Рошчына і Дзяніс Фешчанка.

Герой Дзяніса Фешчанкі падаўся мне рэдкім мярзотнікам.

– Не скажыце, – парыруе Людміла. – Але ж гэты мярзотнік зразумеў, што не грудзі і не доўгія ногі галоўныя, ён адчуў, што яго жонка – самы родны чалавек. І што іх адносіны яшчэ можна ўратаваць.

Акрамя таго, што Дзяніс Фешчанка сыграў галоўную ролю, ён займаўся музычным афармленнем спектакля.

> **– Песня, якая гучыць у канцы, ляжала на паліцы ў Дзяніса, як ён сам казаў, сем ці восем гадоў.**

А прыйшоў час, і яна стала цудоўным упрыгожваннем спектакля, мелодыя песні – яго лейтматывам.

Людміла Рошчына адкрыла сакрэт, што ў поўнай версіі п'есы, у другім яе акце, доктар, які ставіць гераіні дыягназ – каханне, сам у яе закахаўся. Але яна не паддалася на яго заляцанні.

Пасля прэм'еры, прызнаецца актрыса, ёй тэлефанавалі сваякі і знаёмыя, тыя, хто прысутнічаў на прэм'еры, дзяліліся ўражаннямі.

– Нехта шкадуе маю гераіню, хтосьці апраўдвае, некаму яна не спадабалася. Гэта нармальна. А мой пляменнік, якому 33 гады, у якога ёсць ужо дзеці, пасля спектакля прызнаўся: "Я сядзеў і думаў пра тое, што ў мяне ёсць сям'я. І як цудоўна, што ў нас у сям'і ўсё добра".

Аб гэтым, напэўна, і спектакль.

**Наталля ТУР.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўтапрычэп "Зубраня", 1994 г.в., у выдатным стане. Т. (8-044) 7182499.

• ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.

• ЗІЛ-130, дызель, Д245, самазвал-сяльгаснік, доўгі кузаў, добры стан. Т. (8-029) 8777563.

• Івека 49-10, 1997 г.в., рух. 2,8, суцэльнаметалічны, падагрэў рукавіка, вебаста, 4300 руб, торг. Т. (8-029) 6470154, (8-029) 8630321.

• Опель-Вектра, 2001 г.в., 2,0 ТДІ, серабрысты седан. Т. (8-029) 5023219.*

• Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.

• Рэно-Сцэнік 2, 2004 г.в, 1,6Б, выдатны стан, 9100 руб. Т.(8-044) 5900506.

• Рэно-Лагуна 3 з Францыі, 2010 г.в.,1,5 цді, хэтчбэк, белы, усе опцыі, без прабегу па РБ, 14000 руб. Маладзечна. Т. (8-029) 6870898.

• Аўташыны любых памераў ад 13 да 22,5 і сельскагаспадарчыя колы. Шынамантаж на месцы. Т. (8-029) 6032178, (8-029) 7539495.*

• Гума б/к, зіма, R13, камплект на ВАЗ дыскаў. Т. МТС (8-029) 7602038.

• Гума зіма 205/60 R16 б/к (Германія). Акумулятар 75 A.h. (новы) на гарантыі. Т. Вэлком 6207706.

• Гума зімовая 195х65 R15 – 4 шт., б/к, 5000 км, 195х75 R16 C – 4 шт., б/к. Дыскі літые БМВ-3 R 16. Т. (8-029) 6666855.*

• Запчасткі б/к да Аўдзі-80 В3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*

• Запчасткі б/к да ФВ-Пасат В3. Т. МТС (8-029) 8777677.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*

• Аўто у любым стане. Дорага. Т. МТС (8-033) 3049451.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

| Тэлефонныя коды | гарадоў рэгіёну: |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён Незалежнасці. Т. (8-029) 5081223.*

• 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Маладзечна, 1 паверх, 50 кв.м, вышыня столі 3 м, можна пад магазін, офіс і г.д. Т. (8-029) 6870310.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Будаўнікоў, 6; цагляны, 4/9, 67,7-38,7-8,2. Т. Вэлком (8-044) 5167223, МТС (8-033) 3821485.



• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*

• Гараж ГСП №5 у Смаргоні, пліты перакрыцця, падвал 6х4, вышыня 2,9. Т. (8-044) 5303655.

• Гараж Зеніт 2002 бокс №1 у Вілейцы, яма, падлога бетон. Т. (8-029) 7005121.

• Гараж у ГК-12 у Маладзечне. Т. (8-029) 3107024.*

• Дом недабудаваны ў Маладзечне, 130 кв.м, участак 0,15. Часовая пабудова. Магчымы абмен на кватэру. Т. (8-029) 5605781.*

• Дом, лазня, калодзеж у в. Кардон Вілейскага раёна. Лес, рэчка побач. Т. (8-029) 2928728.

• Участак 0,1028 га. Мінская вобл., Маладзечанскі раён, Лебедзеўскі с/с, СТ "Асанава". Пачатковае будаўніцтва (фундамент, каробка). Святло, газ па вуліцы. Без даўгоў. Т. (8-0176) 541864, (8-033) 6679478, (8-029) 6269478.*

### ЗДАМ

• **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***

• У арэнду гандлёвы павільён у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8617331.

• У арэнду памяшканне 32 кв.м у цэнтры альбо прадам. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977. Т. (8-029) 5551515.*

• У арэнду офісныя памяшканні (17,1+30 кв.м; 26,5 кв.м; 16,2 кв.м; 8,1 кв.м) на асобным паверсе (з санвузлом, халадзільнікам), можна ўвесь паверх для адной арганізацыі. Асобныя памяшканні ў комплексе: 15,7 кв.м+55,9 кв. +7,6 кв.м (2-і паверх, з санвузлом, асобны ўваход, можна пад офісы/вытворчасць/склад.Размяшчэнне каля ГЦ "Спадарожнік" у Маладзечне.ІП Суднікові В.В. УНП 691888455. Т. (8-044) 7641131, (8-029) 6650410, (8-029) 1180002 (пн.-пт. 8:00-17:00).

• У арэнду памяшканне ў Вілейцы, 80 кв.м, 2 паверх, асобны ўваход. Магчыма здаваць па частках. Т. (8-029) 7613299, (8-029) 3506947.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

• Музычнае суправаджэнне юбілеяў, вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Абітурыент! Біялогія для школьнікаў і навучэнцаў. Т. (8-025) 5085489.

• Абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*

• Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Агульнабудаўнічыя работы, рамонт даху. ІП Вольскі П.П. УНП 691888641. Т. (8-029) 6764425.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выканаем ўсе віды ўнутраных і вонкавых аддзелачных работ. ІП Балуш І.І. УНП 691181095. Т. (8-029)5156643, (8-029) 5671859.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Дах, у тым ліку рамонт, дапамагу ў выбары і дастаўлю матэрыял. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Правы, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт будаўнічага электраінструмента. ІП Шырко А.Н. УНП 600408188. Т. (8-029) 7741450.*

• Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*

• Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, "АТЛАНТ", BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП "Планета інтэлекту" УНП 191763743. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 6228190. Уладзімір.*

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*

- Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

- **СПІЛУЕМ ДРЗВА, ПАКУЛЬ НЕ ПОЗНА.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

- Фундаменты і дах, рамонт дымаходаў. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

- Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

- Блокі г/с вытворчасці Смаргоні, цэгла, пясок, ФБС. Дастаўка. ПП "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

- Блокі газасілікатныя, цэгла. Наяўны і безнаяўны разлік, дастаўка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 6650413 (Вэлком), (8-029) 2275708 (МТС).*

- Вагонка для лазні (вольха), для дома (сасна). Дошкі для падлогі. Брус усіх памераў, блокхаўс, імітацыя бруса. Дастаўка. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

- Вароты з сеткі-рабіцы, памер 1,5х3,0, бramкі 1,5х1,0, арматура дыяметрам 8,10,12, сетка пад сцяжку 100х100х3, 150х150х4, 50х50х4. Т. (8-029) 6513000.*

- **ПЛІТЫ ПЕРАКРЫЦЦЯ, ПГ6-4 (ПАМЕР 6,0х1,5 м) ПА ЦАНЕ 50 РУБ ЗА 1 ШТ. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***

- Сетка рабіца 1,5-1,8 м в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м п., вугалок 40 м п., труба профільная 300 м п. Т. МТС (8-033) 6603068.*



**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Карова. Т. (8-029) 9416028.

- Кныр в'етнамскай віслабрухай пароды, нядорага. Т. (8-029) 6237550.*

- Падсвінкі в'етнамскія. Т. (8-029) 9714041.*

- Парасяты. Т. (8-025) 5334173.*

- Свіння жывой вагой альбо мясам. Т. (8-029) 9714041.

- Цялушка, 2,5 года, пакрытая, ацёл у снежні, козачкі, авечкі. Т. (8-01771) 66283, Вэлком (8-029) 3878206.

- Шчанюкі нямецкай аўчаркі. Т. (8-029) 8732780.

**Іншае**

- Батарэі чыгунныя, 3,60 руб. Т. (8-029) 7697200.*

- Ванна чыгунная б/к у добрым стане. Т. (8-029) 2558386.

- Збожжа, дробная бульба. Маладзечанскі раён. Т. (8-029) 5570017.

- Зруб з кругляка 6х4 м, выдатная якасць. Т. (8-029) 9426956, (8-029) 9426958.*

- Кацёл-печ у лазню, 360 руб. Т. (8-025) 6449793.

- **КУРТКАМАНІЯ ў "АДЗЕННЕ-ОПТ"**. Выбар ад А да Я. Самыя смешныя цэны. Таксама ёсць пальчаткі (5 руб), байкі (15 руб), джынсы (22 руб). Дом быту, Маладзечна, вул. Будаўнікоў,15-а, 2 паверх. ІП Каўзовіч А.С. УНП 691886067.*

- Магазін "Абоі" у Вілейцы па вул. Савецкай, д.21. Новае паступленне тавару! Нізкія цэны! ІП Барысенка Л.А. УНП 600318347.*





Фота hypervibe.com.

**Халадзільнік у любой сям'і можа стаць не толькі самым папулярным месцам, таму што там захоўваюцца прадукты, а яшчэ і своеасаблівым летапісам.**

# Муж можа забыцца пра важныя падзеі ў нашым жыцці, халадзільнік – не

ВІЛЕЙКА

**Другім удзельнікам конкурсу "А ў маёй кухні..." на нашым сайце rh.by стала Алёна Емяльяненка.**

Жанчына расказала пра тое, што кухня асабліва нічым адметным не вызначаецца і з нецярпеннем чакае абнаўлення і рамонту, якія сям'я запланавала на наступны год.

– Цяпер у нас малое дзіця, таму не хочацца, каб у кватэры быў пыл, бруд, – адзначае Алёна. – Тым больш цяпер Арцёму ўсе вельмі цікава памацаць, падрапаць. Не заўсёды ўгледзіш, што ён натварыў. Ужо пачаў расказваць і паказваць пальчыкам, што намалявана на шпалерах, але ж не заўсёды ручкі чыстыя. Таму не хочацца выкідаць грошы на вецер, каб праз год зноў мяняць шпалеры альбо фарбаваць сцены.

А вось халадзільнік на кухні Емяльяненкаў заўважны.

– Гэта своеасаблівы летапіс жыцця нашай сям'і, – расказвае гаспадыня. – На ім мы пакідаем цыдулкі адзін аднаму, пішам прызнанні. Тут мы збіраем мазаікі з сынам, а таксама робім маленечкія сюрпрызы адзін аднаму. Вельмі падабаецца тое, што можна прымацаваць рэцэпт. Сябры, як прыязджаюць з падарожжаў, таксама прывозяць магнікі.

Кожны магнічік – гэта нейкая падзея ў сям'і. І, як жартуе Алёна, муж можа забыцца пра важную падзею, халадзільнік – не.

Фотаздымак халадзільніка Алёны Емяльяненкі глядзіце на сайце ў праекце "Наша кухня".

**Аддзел інфармацыі.**

*Дашлі **фотаздымак кухні,** атрымай РАМАНТЫЧНУЮ ВЯЧЭРУ на дваіх у кавярні "Блюз", Маладзечна, СЯМЕЙНУЮ ФОТАСЕСІЮ ад фатографа Святланы Сеннікавай і фатографа-пачаткоўца Яўгена Чарнышова*

*Работы на конкурс "А ў нашай кухні..." можна дасылаць **ДА 25 ЛІСТАПАДА** на электронную пошту **regionnews@rh.by**. Падрабязнасці на сайце rh.by у рубрыцы "Наша кухня".*

- Салодкія навагоднія падарункі Яшкіна! Цукеркі па цане вытворцы (РФ)! Па б/н разліку. ІТУП "Кдв Бел" УНП 191070763. Т. (8-029) 6722765.*

### КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

- Камень, шчэбень. Т. (8-029) 6260525.

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

- Мотаблок МТЗ. Т. (8-029) 6299208.

- Мотаблок ці міні-трактар у любым стане. Т. МТС (8-033) 6041637.*

**Бытавую тэхніку**

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

- Халадзільнік, маразільнік, тэлевізар, электраінструмент, ноўтбук, б/к. Т. (8-029) 5329229.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- Акустычныя калонкі, узмацняльнік, ноўтбук, сістэмны блок, манітор, ЖК-тэлевізар, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёлу**

- Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.

- Свінню свойскую. Т. (8-029) 6181623.

**Антыкварыят**

- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

- Антыкварыят дорага, мэблю, манеты, іконы, самавар і інш. Т. (8-029) 5329229.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

- Альтанку, арэлі, бытоўку, арматуру, рыштаванні (леса). Т. (8-029) 5329229.*

- Апілкі ў вялікіх аб'ёмах. Маладзечна. Т. (8-029) 5612055.*

- Біжутэрыю: пацеркі, брошкі, кольца, гадзіннікі. Т. (8-029) 5329229.*

- **БОЧКУ ПЛАСТЫКАВУЮ** аб'ёмам не менш за 250 л. Т. (8-029) 6550799.*

- Вазьму на рэалізацыю новае адзенне. ІП Каўзовіч А.С УНП 691886067. Т. (8-029) 5329229.*

- Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

### АДДАМ

- Рыжых кацянят у добрыя рукі. Т. (8-029) 2771666, (8-0176)769667.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

- Аддзелачнік: тынкоўка, шпаклёўка, адкосы, шпалеры (абоі), уцяпленне і інш. Т. (8-029) 2775694.*

- Установка агароджаў, кладка блокаў і цэглы, дахавыя, бетонныя, зварачныя, дэмантажныя, аддзелачныя работы. Сціплоўванне дрэў і інш. Т. (8-044) 7556706, (8-029) 8521268.

- Майстар-еўрааддзелачнік зробіць кваліфікаваны рамонт ад дробнага да "пад ключ". Т. (8-044) 5724916.*

- Цесляра (плотніка). Досвед: ПВХ-адкосы, падшыва, ламінат, сайдынг, дах. Т. (8-044) 5976827.

### ПАТРАБУЮЦЦА

- Вадзіцель кат. Е, бліжняя і дальняя РФ. ПТУП "Голд Вэйплюс" УНП 619690859. Т. (8-029) 6893798.*

- Фасадчыкі, аддзелачнікі (вент. фасад). Т. (8-033) 3015119.*

## Беларусь 1

**6.50** Мелодрама "**Я ЗНАЮ ТВОИ СЕКРЕТЫ**" (Россия). 3-я - 4-я серии.
**8.30** Народное утро.
**9.00** Новости.
**9.10** "Арсенал". Программа об армии.
**9.45** Комедийный сериал "**СВАТЫ**-2" (Украина).
**11.05** "50 рецептов первого". Кулинарное шоу.
**12.00** Новости.
**12.10** Новости. Центральный регион.
**12.35** Коробка передач.
**13.10** Ироническая мелодрама "**СВАДЬБЫ НЕ БУДЕТ**" (Россия).
**15.00** Новости.
**15.15** Твой город.
**15.30** Вокруг планеты.
**16.15** Лирическая мелодрама "**РИТА**" (Россия).
**18.00** Международный детский конкурс песни "Евровидение-2016". Прямая трансляция.
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.10** Криминальная мелодрама "**ПОДМЕНА В ОДИН МИГ**" (Россия). 1-я - 2-я серии. Лена счастлива: у неё прекрасный муж, она готовится стать матерью. Но поездка в райцентр на стареньком рейсовом автобусе и встреча с уголовницей переворачивают всю её жизнь. И даже на лучшую подругу она уже не может положиться, как раньше…

## Беларусь 2

**7.00** "Раздолбаи". Познавательно-развлекательное шоу (Украина). 1-й выпуск.
**7.35** Телебарометр.
**7.40** Элементариум.
**8.20** Кулинарный эксперимент.
**8.55** "Удиви меня 3". Талант-шоу (Россия).
**10.50**, **11.55**, **13.25**, **15.00**, **16.45**, **18.20** "Самый лучший день на "Двойке". Телемарафон.
**11.20** Ваше лото, Пятерочка.
**12.15** "Барышня-крестьянка". Реалити-шоу (Украина).
**13.50** "Любовь онлайн". Реалити-шоу (Украина).
**15.20** Анимация для всей семьи. "Стюарт Литтл 2" Германия США).
**17.10** Фантастический боевик "**НОВЫЙ ЧЕЛОВЕК-ПАУК**" (США).
**20.05** Нас не обманешь.
**20.35** Два рубля.
**20.55** Телебарометр.
**21.30**, **22.10** Драма "**НЕ ОТПУСКАЙ МЕНЯ**" (Великобритания-США). Действие происходит в антиутопической Великобритании конца XX века, в которой люди клонируются для создания живых доноров органов для пересадки. Кэти Ш. и её друзья по интернату созданы как такие доноры.
**22.05** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**23.30** Молодежный сериал "**КАК Я ВСТРЕТИЛ ВАШУ МАМУ**" (США).
**0.40** Телебарометр.

## Беларусь 3

**7.35** "Беларуская кухня". Качка з дранікамі.
**8.00** "Калейдаскоп". Навіны культуры.
**8.20** "**ДЗЕНЬ ДОБРЫ І БЫВАЙ**". СССР, 1972 г.
**9.50** "Непрыручаная птушка". Жыццё і творчасць паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.
**10.10** "Бард-парад".
**10.50** "Наперад у мінулае".
**11.15** "Нацыянальны хіт-парад".
**12.10** "Музеі Беларусі". Парк-музей інтэрактыўнай гісторыі "Сула".
**12.35** "Святыні Беларусі". Свята-Успенскі Жыровіцкі мужчынскі манастыр.
**13.00** "Беларуская кухня". Качка з дранікамі.
**13.30** "Калейдаскоп". Навіны культуры.
**13.50** "Тэатр у дэталях". Спектакль Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра "Вяселле ў Малінаўцы".
**14.10** "Легенды музыкі". ВІА "Полымя".
**14.30** Аўтарскі канцэрт Алега Елісеенкава.
**16.10** "Я хачу гэта ўбачыць!" Заслаўе. Маладзечна. Будслаў.
**16.35** "**ФАНТАМАС СУПРАЦЬ СКОТЛАНД-ЯРДА**". Францыя, Італія, 1967 г.
**18.15** "**ЧАТЫРЫСТА ЎДАРАЎ**". Драма, Францыя, 1959 г.
**19.55** "Апошні дзень". Эльдар Разанаў.
**20.35** "Размаўляем па-беларуску".
**20.40** "Калыханка".
**21.00** "Калейдаскоп". Навіны культуры.
**21.20** "**НА ВАЙНЕ ЯК НА ВАЙНЕ**". Ваенная драма, СССР, 1968 г.
**22.45** "**АДНА НОЧ**". Кінанавела, "Беларусьфільм", 1989 г.

## СТВ

**6.20** "**НЕУДАЧНИКОВ.NET**". Сериал.
**7.55** "Добро пожаловаться".
**8.15** "Автопанорама".
**8.45** "День мистических историй".
**11.00** "Большой завтрак" с Ириной Ромбальской.
**11.40** "День мистических историй".
**13.30** "24 часа".
**13.45** "День мистических историй".
**16.00** "Центральный регион".
**16.30** "24 часа".
**16.50** "Автопанорама".
**17.20** "Военная тайна с Игорем Прокопенко".
**19.30** "Неделя". Информационно-аналитическая программа.
**20.25** "День мистических историй".
**22.15** "Кино": Жюльет Бинош, Джуди Денч и Джонни Депп в фильме "**ШОКОЛАД**". Великобритания - США, 2000г. Как-то зимним днем в тихом французском городке появляется молодая женщина по имени Виенн. А чуть позже она открывает необычный шоколадный магазин, предлагая посетителям испытать новое удовольствие. И действительно, побывав у нее однажды, люди вновь и вновь поддаются сладкому очарованию. Просто Виенн волшебным образом угадывает чужие желания. И они сбываются! Но только когда в город приезжает Ру, Виенн, наконец, смогла понять свои собственные…
**0.20** "Соль". Музыкальное шоу Захара Прилепина.
**1.45** "День мистических историй".

## ОНТ

**7.00** ОНТ представляет: "Воскресное утро".
**8.00, 9.00, 16.00** Наши новости.
**9.05** "Воскресная проповедь".
**9.20** "Смешарики. ПИН-код".
**9.35** "Непутевые заметки".
**9.55** "Пока все дома".
**10.45** "Фазенда".
**11.15** К 70-летию Патриарха Кирилла."Мы все равны перед Богом".
**12.15** ОНТ представляет: "Эволюция. Дети".
**12.45** Премьера. "Маргарита Терехова. Одна в зазеркалье".
**13.50, 16.20** "Точь-в-точь".
**16.15** Новости спорта.
**17.00** Премьера ОНТ: "Талент краіны".
**20.00** Контуры.
**21.05** "Ледниковый период".
**23.30** ОНТ представляет: "Беларусь без границ с группой "Без Билета".
**0.15** "Владимир Скулачев. Повелитель старости".

## НТВ-Беларусь

**6.00** "Астропрогноз".
**6.05** Т/с **"ДОРОЖНЫЙ ПАТРУЛЬ".**
**6.50, 8.20** Х/ф **"ПРЕСТУПЛЕНИЕ БУДЕТ РАСКРЫТО".**
**8.00, 10.00, 16.00** "Сегодня".
**8.50** "Их нравы".
**9.25** Едим дома.
**10.25** "Первая передача".
**11.05** "Чудо техники".
**12.00** "Дачный ответ".
**13.10** "НашПотребНадзор".
**14.15, 16.20** Х/ф **"ОТПУСК ПО РАНЕНИЮ".**
**18.05** "Следствие вели…".
**19.00** "Акценты недели". Информационная программа.
**19.55** Т/с **"ЗАХВАТ".**
**23.40** "Научная среда".

## РТР-Беларусь

**7.00, 13.25** "Комната смеха".
**7.35** Х/ф **"ВАЛЬКИНЫ НЕСЧАСТЬЯ".**
**11.00, 14.00** ВЕСТИ.
**11.20** "Сам себе режиссер".
**12.10** "Смехопанорама Евгения Петросяна".
**12.45** "Утренняя почта".
**14.20** ПРЕМЬЕРА. "Смеяться разрешается". Юмористическая программа.
**16.30** Х/ф **"ОТЦЫ И ДЕДЫ".**
**18.05** ПРЕМЬЕРА. "Всероссийский открытый телевизионный конкурс юных талантов "Синяя Птица".
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**21.30** Ток-шоу "Что происходит".
**22.30** Х/ф **"КУДА УХОДИТ ЛЮБОВЬ"** (анонс).
**0.05** "Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым".

## ТВ Мир

**6.00** Программа "Миллион вопросов о природе".
**6.15** Программа "Такие странные".
**6.40, 9.00** Мультфильмы.
**8.00** Программа "Культ/Туризм".
**8.30** Программа "Беларусь сегодня".
**9.30** Программа "Нет проблем".
**10.00, 16.00** Новости.
**10.15** Программа "Иные. Школа любви".
**11.05** Т/с **"ПОНЧИК ЛЮСЯ-2".**
**14.20** Программа "Знаем русский".
**15.00** Программа "Держись, шоубиз!".
**15.30** Программа "Почему я?".
**16.15, 22.00** Т/с **"ДЕЛО ГАСТРОНОМА №1".**
**21.00** Итоговая программа "Вместе".
**0.40** Т/с **"НЕОТЛОЖКА".**

# кіно

## ТВ3

**6.00, 9.00** Мультфильмы. **6.30** "Азбука здоровья с Геннадием Малаховым". **7.30** "Школа доктора Комаровского". **8.00** "Места Силы. Татарстан". **10.30, 11.15, 12.00, 12.45, 13.30** Т/с **"ДЕТЕКТИВ МОНК". 14.15** Х/ф **"ДЕНЬ НЕЗАВИСИМОСТИ". 17.00** Х/ф **"ЭВОЛЮЦИЯ". 19.00** Х/ф **"ЧУЖОЙ ПРОТИВ ХИЩНИКА". 20.45** Х/ф **"ЧУЖИЕ ПРОТИВ ХИЩНИКА: РЕКВИЕМ". 22.45** Х/ф **"ПОСЛЕДНИЕ ДНИ НА МАРСЕ". 0.30** Х/ф **"ЗАТЕРЯННЫЙ МИР". 2.30** Х/ф **"КОНТАКТ". 5.15** "Городские легенды. Казань. Тайна ханских сокровищ".

## Action TV1000

**5.10 ВОЙНА БОГОВ. БЕССМЕРТНЫЕ.** США, приключенческий боевик, фэнтези 2011. **07.10 ИНКАССАТОР.** США, криминальный боевик, 2009. **09.10 СОТОВЫЙ.** США, Германия, детектив, 2004. **11.10 К-19.** США, Британия, Германия, драма, 2002. **13.35 ВОЛК-ОДИНОЧКА.** США, фильм ужасов, 2005. **15.15 ХЭНКОК.** США, комедийный боевик, 2008. **17.10 ВОЙНА БОГОВ. БЕССМЕРТНЫЕ.** США, приключенческий боевик, фэнтези 2011. **19.10 ПОТЕРЯННЫЙ РЕЙС.** Франция, Великобритания, США, драма, 2006. **21.10 СОЛОМОН КЕЙН.** Франция, Великобритания, боевик, 2009. **23.10 МАЧЕТЕ УБИВАЕТ.** США, боевик, чёрная комедия, 2013. **01.10 ЧЕЛОВЕК-ПАУК 3.** США, приключенческий боевик, 2007. **03.35 ПРОПАВШИЕ.** Великобритания, Австралия, триллер, 2007.

## Кинокомедия

**0.10** Х/ф **"ЛЮБОВЬ ВРАЗНОС". 1.40** Х/ф **"РОКОВАЯ ЛАРА". 3.40, 3.55, 15.30** Скетчком "Между нами". **4.20** Х/ф **"ЛЮБОВЬ И ДРУГИЕ КАТАСТРОФЫ". 6.00** Х/ф **"СНАЧАЛА ЛЮБОВЬ, ПОТОМ СВАДЬБА". 7.40** Х/ф **"ВСЕ ПУТЕМ!". 9.25** Х/ф **"НИ МИНУТЫ ПОКОЯ". 10.50** Х/ф **"ДОМ С ПАРАНОРМАЛЬНЫМИ ЯВЛЕНИЯМИ". 12.25** Х/ф **"ДОМ С ПАРАНОРМАЛЬНЫМИ ЯВЛЕНИЯМИ 2". 14.00** Х/ф **"ЗАВТРАК В ПОСТЕЛЬ". 16.00** Х/ф **"ШЕСТЬ ЖЕН ГЕНРИ ЛЕФЭЯ". 17.40** Х/ф **"SUPERНЯНЬ". 19.10** Х/ф **"SUPERНЯНЬ 2". 20.50** Х/ф **"ЛЮБОВЬ БЕЗ ПЕРЕСАДОК". 22.35** Х/ф **"ХОЧЕШЬ ИЛИ НЕТ?".**

## Феникс+Кино

**8.00, 16.00, 0.00** Т/с **"ЛЮБИТЕЛЬНИЦА ЧАСТНОГО СЫСКА ДАША ВАСИЛЬЕВА-3". 9.00, 10.00, 17.00, 18.00, 1.00, 2.00** Т/с **"КАТИНА ЛЮБОВЬ". 11.00, 12.00, 19.00, 20.00, 3.00, 4.00** Т/с **"ЗА ВСЕ ТЕБЯ БЛАГОДАРЮ 2". 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **"Я - ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ. КИЛЛЕР К ЮБИЛЕЮ". 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **"СОБЛАЗН". 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **"АПОСТОЛ".**

## Русское кино TV1000

**6.20 ШАПИТО-ШОУ. ЛЮБОВЬ И ДРУЖБА.** Россия, комедия, 2011. **08.20 ПАПА НАПРОКАТ.** Россия, Украина, комедия, 2008. **10.10 ПУТЬ.** Россия, приключенческий боевик, 2009. **12.10 ПУТЕШЕСТВИЯ ПАНА КЛЯКСЫ.** СССР, Польша, киносказка, 1986. **15.10 ПЯТНИЦА.** Россия, комедия, 2016. **16.50 В СТИЛЕ JAZZ.** Россия, романтическая комедия, 2010. **18.30 БЕССЛАВНЫЕ ПРИДУРКИ.** Россия, криминальная комедия, 2014. **20.20 ШАПИТО-ШОУ. УВАЖЕНИЕ И СОТРУДНИЧЕСТВО.** Россия, комедия, 2011. **22.20 АРТИСТКА.** Россия, комедийная мелодрама, 2007. **00.20 ВИЙ 3D.** Россия, Украина, Германия, фантастика, 2014. **02.50 СИНДРОМ ПЕТРУШКИ.** Россия, Швейцария, Германия, драма, 2015. **04.50 РЖЕВСКИЙ ПРОТИВ НАПОЛЕОНА.** Россия, Украина, комедия, 2012.

## TV1000

**6.10 ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ ЧАРЛИ САН-КЛАУДА.** США, Канада, фэнтези, мелодрама, 2010. **08.10 НЕВЕРОЯТНОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ МИСТЕРА СПИВЕТА.** Франция, Австралия, Канада, семейный, 2013. **10.10 КОМАТОЗНИКИ.** США, мистика, 1990. **12.15 ТРУДНОСТИ ПЕРЕВОДА.** США, Япония, мелодрама, 2003. **14.10 ЛАК ДЛЯ ВОЛОС.** США, Великобритания, музыкальная комедия, 2007. **16.15 ПОТЕРЯННЫЙ РАЙ.** Франция, Испания, Бельгия, Панама, криминал, 2014. **18.20 ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ ЧАРЛИ САН-КЛАУДА.** США, Канада, фэнтези, 2010. **20.10 ТАМ, ГДЕ СЕРДЦЕ.** США, драма, 2000. **22.15 УПРАВЛЕНИЕ ГНЕВОМ.** США, комедия, 2003. **00.10 С МЕНЯ ХВАТИТ.** США, триллер, 2002. **02.15 РОЖДЕННЫЙ ЧЕТВЕРТОГО ИЮЛЯ.** США, драма, 1989. **04.45 СТЮАРТ ЛИТТЛ 2.** США, комедия, 2002.

## Много ТВ

**0.00, 1.00, 2.00, 3.00** Русский перевод. **4.00, 5.00** Салон красоты. **6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00** Королевство кривых. **14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00** Наружное наблюдение. **22.00, 23.00** Дальнобойщики.

## ВТВ

**6.00, 4.00** Скетч-шоу "ДАЕШЬ МОЛОДЕЖЬ". **6.30** "БОЛЬШАЯ МАЛЕНЬКАЯ ЗВЕЗДА". **7.30** Т/с **"ЕРАЛАШ". 8.00** Мультфильмы. **9.00** Шоу "МОЙ ПАПА КРУЧЕ!". **10.00, 0.50** "ТУРБО МИКСЕР". **12.00** Make-over шоу "УСПЕТЬ ЗА 24 ЧАСА". **13.00** Т/с **"ДВА ОТЦА ДВА СЫНА". 15.10** Х/ф **"ПОЛИЦЕЙСКИЙ ИЗ БЕВЕРЛИ-ХИЛЛЗ 3". 17.25** Х/ф **"ДЖАСТИН И РЫЦАРИ ДОБЛЕСТИ". 19.30** Юмористическое шоу "УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ". Виза есть - ума не надо! **21.20** Х/ф **"РЕКРУТ". 0.00** ЕВРОПЕЙСКИЙ ПОКЕРНЫЙ ТУРНИР. **3.30** "ЛОВИ МОМЕНТ". **4.30** Скетч-шоу "6 КАДРОВ". **5.30** "ДУРАКИ И ДОРОГИ".

# хобі і адпачынак

## Драйв

**6.00, 19.30, 3.05** Автодело. **6.25, 19.55, 3.35** Контраварийная подготовка. **6.40, 20.10, 3.50** Супергонки. **7.00, 20.30, 4.10** Своими руками. **7.30, 21.00, 4.40** Мотоциклы. Стиль жизни. **7.55, 21.25** Легендарные гонки. **8.25, 16.25, 21.50, 5.35** Автомобильные дороги России. **8.50** День выбора. **9.20, 2.50** Супертачки. **9.35** Минивэн. **10.05** Мотогараж. **10.30, 1.50** Профессия водитель. **11.00** Все включено. **11.30** Супер эконом. **12.00, 16.55, 23.05** Автодрайв 2016. **12.30, 1.25** Мотоэкзотика. **12.55** Вторые руки. **13.25, 2.20** Тест на "Драйве". **13.55** Кемперы. **14.25** Автомобильная классика с Деннисом Гейджем. **14.45** Реальная дорога. **15.00** ТОП ГИР (СЕЗОН 17). **15.55** Дорогами Крыма. **17.20** Двойной тест-драйв. **17.45** Автомобиль мечты. **18.15** На край Евразии. **18.45, 0.30** Одноклассники. **19.15, 23.30** Проверка на дороге. **22.20** Мото тест-драйв. **22.35** Испытание на прочность. **23.45** Мото дуэль. **0.00** Мой гараж. **0.55** Кроссоверы. **5.05** Комплектация.

## Explore

**6.05** Машины с того света. **6.50, 21.00** Великий дикий север. **7.40, 8.25** Крупная и злая рыба. **9.10, 9.55** Братские проекты. **9.30, 10.15** Братья в новом доме. **10.45, 11.25, 12.10, 12.55, 13.35, 14.25, 15.05, 15.50** Старатели. **16.35, 17.00, 17.25, 17.50, 5.25** Невероятные изобретения. **18.15, 23.35** Битвы роботов. **19.10** Супердальнобойщики. **20.00, 20.30** Короли свалки. **21.45** Самые опасные дороги мира. **22.50, 23.10** Дроны. **0.30** Бен и Джеймс на Аравийском полуострове. **1.20** Аллея торнадо. **2.05** Как устроены города. **2.50, 3.10** Не пытайтесь повторить это дома! **3.35** Мужская лаборатория Джеймса Мэя. **4.35** Простые предметы изнутри.

## History

**8.00** Вторая мировая война: чего стоит империя. **8.50** Отчаянные дегустаторы отправляются… **9.55** Погода, изменившая ход истории. **10.20, 11.25** Безграничная Римская империя. **12.25, 20.00** Американские принцессы на миллион долларов. **13.25, 14.15, 0.00** Теории заговоров. **15.00, 21.05** Изгнанники. **16.00, 22.00** Мушкетёры. **17.00, 18.00, 19.00** Разбойники, пираты и бандиты. **23.00** PREMIERE Мушкетёры. **0.50** Лучшие убийцы древних времён. **1.50** Спецназ древнего мира. **2.40** Панорамный взгляд на гражданскую войну в США. **3.35** Новые секреты Помпеи. **4.35** Команда времени. **5.25** Музейные тайны. **6.10** Скрытые угрозы викторианской эпохи 2. **7.10** История тайных обществ.

## Nature

**6.00, 6.50, 7.40** Животные 24/7. **8.30, 9.00, 9.30, 10.00, 3.00, 3.30, 4.00, 4.30, 5.00** Новорожденные в зоопарке. **10.30, 10.55, 11.20, 11.45** Удивительные животные. **12.10, 13.00, 13.50, 14.40, 15.30, 23.35, 0.25** Супер ветеринар. **16.20** Свирепые животные. **17.10, 18.05, 19.00** Микромонстры с Дэвидом Аттенборо. **19.55** Операция "Дикая природа". **21.00** Мамонты - гиганты ледникового периода. **21.50** Тайная жизнь зоопарка. **22.40, 23.05** Забавные животные. **1.15, 1.40, 2.05, 2.30** Служебные собаки. **5.30** Национальные парки Канады.

## National Geographic

**6.00** Человек против YouTube: Паром и водные лыжи. **6.45, 13.10, 5.40** Научные глупости. **7.10** Научные глупости: Танцы на столе и катание на носках. **7.30** Научные глупости: Каяки и кроссовые мотоциклы. **7.50** Служба спасения Аляски: Бурить или не бурить. **8.40** Служба спасения Аляски: Механик от бога. **9.20** Служба спасения Аляски: Франкендозер. **10.10** Необычные промыслы: Жить дарами природы. **10.50** Дикий тунец: Тунец и текила. **11.35** Международный аэропорт Дубай: Ремонт судна. **12.20** Сборник "Игр разума": Разум против тела. **13.30** Научные глупости: Бег с препятствиями и головокружение. **13.55, 4.10** Прорыв: Мозг: последний рубеж. **14.40, 4.50** Прорыв: Больше чем человек. **15.20** Морган Фриман. Истории о Боге: Кто есть Бог? **16.15** Морган Фриман. Истории о Боге: Жизнь после смерти. **17.10** Марс: Ново Мундо. **18.00, 21.05, 0.15, 2.30** Марс: Приземлились. **18.50, 3.20** Год в открытом космосе. **19.35, 1.00** Игры разума: Знакомьтесь - мозг. **20.20, 1.45** Игры разума: Задача - выжить. **21.50** ЭкзоМарс: в поисках жизни. **22.40** Эвакуация Земли. **23.30** Возвращение из мёртвых.

## Охота и рыбалка

**6.00, 19.45** Боб Надд. Ловите правильно! **6.25, 20.10** Рыболовные путешествия. **7.15** Уральская рыбалка. **7.45, 21.35** Как охотились наши деды. **8.10, 14.55** Водоемы России. Рыбинское водохранилище. **8.40, 15.55, 23.30** Нахлыст на разных широтах. **9.10, 22.05** Охота и рыбалка с Гарри Льюисом. **9.35, 2.00** Технология зимнего клева. **10.05, 22.30** Сезон охоты. **10.35, 18.45** Энциклопедия рыбалки. **11.05, 23.00, 5.15** Морская охота. **11.35, 3.25** Водный мир. **12.05, 21.05, 1.00** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **12.35** Охота на гусей в Шотландии. **13.30, 3.55** Карпфишинг. **13.55** Планета охотника. **14.25** Особенности охоты на Руси. **15.25, 0.00** Рыбалка без границ. **16.25, 2.30** Рыбалка в Нижнем Прикамье. **16.50** По следам Хемингуэя. **17.20** Найти подходы к судаку. **18.15, 1.30** Норвежская рыбалка. **19.15, 0.30** Секреты "трудных" водоемов. **2.55** Сомы Европы. **4.20** Горная охота с Эдуардом Бендерским. **4.45** Охотничьи меридианы. **5.45** Следопыт.

## Усадьба

**6.00, 19.30** Строим дом мечты. **6.30, 15.20** Зелёный уголок. **6.35, 20.00** Осторожно злая собака. **7.00, 20.30** Деревянная Россия. **7.25, 20.55, 3.55** В лесу родилась. **7.55, 21.25** Зелёный штрих. **8.05, 21.35, 4.35** Сельсовет. **8.15** Проект мечты №136. **8.45, 22.15** Цветочный блюз: ботанические сады Северной Америки. **9.10, 14.40** Детская мастерская. **9.25, 22.55** Дачные радости. **9.55, 23.20** Сады Великобритании. Возрождение. **10.55, 0.20** Побег из города. **11.25, 0.45** Альтернативный сад. **11.55, 1.15** Домашняя экспертиза. **12.20, 1.45** Прогулка по саду. **12.50, 2.30** Старые дачи. **13.20, 2.15** Высший сорт. **13.35** Лучшие дома Австралии 4 СЕЗОН. **13.55** Мастер-садовод. **14.25, 22.40** Вершки корешки. **14.55** Сад мечты. **15.30** Чудеса, диковины и сокровища. **15.55** Школа ландшафтного дизайна. **16.20** Дизайн своими руками. **16.50** История одной культуры. **17.20** Стройплощадка. **17.50** Садовые истории с Оливией АндриакО. **18.15** Частный сектор. **18.45** История усадеб. **19.15** Чужеземцы. **21.45** Проект мечты №137. **3.00** Тихая моя родина. **3.30** Огородные вредители. **4.25** Подворье. **4.50** Я фермер. **5.20** 10 самых больших ошибок. **5.45** Клумба на крыше.

# спорт

## Беларусь 5

**8.00, 21.35** PRO спорт. Новости. **8.10** Футбол. Беларусбанк - чемпионат Беларуси. Динамо Минск - Ислочь. **10.00** Хоккей. КХЛ. Слован (Братислава) - Динамо-Минск. **11.55** Гандбол. Лига чемпионов. БГК им.Мешкова (Беларусь) - Целе (Словения). **13.25** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. Аматар (Брест) - Лидсельмаш (Лида). **15.00** "На пути к ЧМ-2018". Видеожурнал. **15.25** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Парма (Пермь) - Цмокі-Мінск. **17.20** Гандбол. Кубок ЕГФ. 3-й квалификационный раунгд. Первый матч. СКА-Минск (Беларусь) - Сан-Рафаэль (Франция). **18.55** "Две стороны олимпийской медали". Владислав Гончаров. **19.25** Волейбол. Лига чемпионов. Мужчины. Дукла (Чехия) - Строитель (Беларусь). **21.45** Смешанные единоборства. Чемпионат Беларуси по ММА.

## Евроспорт

**3.30, 7.00, 10.30, 15.00, 21.05** Снукер. Northern Ireland Open. 1/2 финала. **5.00** Футбол. Чемпионат мира среди девушек. Испания - Япония. **6.00** Футбол. Чемпионат мира среди девушек. Папуа-Новая Гвинея - Швеция. **9.30** WATTS. **11.45, 19.00** Футбол. Чемпионат мира среди девушек. Бразилия - Швеция. **14.00, 20.00** Футбол. Чемпионат мира среди девушек. Нигерия - Испания. **16.00, 22.00** Снукер. Northern Ireland Open. Финал. **1.00** Футбол. Чемпионат MLS. 1/4 финала. Ответный матч."Нью-Йорк Ред Буллз" - "Монреаль Импакт".

● АНОНС **"Куда уходит любовь"**

### Мелодрама, Россия, 2014

Наталья работает учительницей в школе, счастлива замужем вторым браком за бизнесменом Стасом, а ее сын Ваня учится в институте. Но за счастливым фасадом кроются тайны, которые не удастся скрывать вечно. Однажды Наталья узнаёт, что муж ведет двойную жизнь и за ее спиной встречается с другой женщиной. Героиня шокирована предательством, но вся правда приводит Наталью в ужас: любовницей Стаса оказывается невеста ее сына Вани…

**РТР, 22.30**



# Глядзім на посуд у кухні вачыма эколага

## Ад чаго лепей пазбавіцца, а што набыць, каб прыгатаванне ежы было больш бяспечным?

**Талеркі, кубкі, патэльні, чайнікі – кухню без посуду немагчыма сабе ўявіць. Мы набываем яго, “клюнуўшы” на прыемны дызайн, зручнасць ці кошт. Але і матэрыял таксама мае не апошняе значэнне.**

Як выбраць не толькі прыгожы, але і экалагічна бяспечны посуд, чытачам “РГ” падказвае **Дар’я Чумакова**, каардынатар праграмы па экалагічна сяброўскім ладзе жыцця Цэнтра экалагічных рашэнняў (Мінск).

### Ці ўсякі алюмініевы посуд шкодны?

Каструлі з гэтага матэрыялу прываблівають сваім коштам і лёгкай вагой. Але недарма гаспадыні глядзяць на алюміній з асцярогай: эколагі раздзяляюць гэту занепакоенасць.

– Калі ў алюмініевай, неэмаліраванай каструльцы гатаваць кіслую ежу – з воцатам ці таматнай пастай, – алюміній трапляе ў ежу, – тлумачыць эксперт. – Гэта досыць агрэсіўнае рэчыва, яго назапашванне атручвае арганізм. Таму калі без такога посуду ніяк, то выбірайце вырабы з анадзіраванага ці эмаліраванага алюмінію.

Уладальніцы алюмініевага посуду ведаюць, як лёгка ён дэфармуецца і як хутка губляе прыгожы знешні выгляд, што адбіваецца на яго цеплаправоднасці. Таму старыя алюмініевыя каструлі да таго ж марнуюць электраэнергію ці газ.

Пры магчымасці варта перайсці на больш экалагічныя і бяспечныя матэрыялы. Напрыклад, можна аддаць перавагу шматслойнаму посуду – алюмінію, які з двух бакоў пакрыты нержавейнай сталлю.

### Электрачайнік – шкляны, металічны ці пластыкавы?

Ведаючы стаўленне эколагаў да пластыку, лёгка прадказаць, які вердыкт спецыялісты выносяць пластыкавым электрачайнікам: імі не варта карыстацца.

Па-першае, яны служаць не так доўга, як іх металічныя ці шкляныя аналагі. Па-другое, калі скончыцца тэрмін прыдатнасці, а часам і раней, пластык пачынае выдзяляць небяспечныя таксічныя элементы.

Яшчэ адзін плюс шкла і металу: з іх можна без асцярогі здымаць накіп рознымі рэчывамі, у тым ліку лімоннай кіслатой і воцатам.

– Калі ёсць выбар і магчымасць заплаціць трохі болей – мы рэкамендуем набываць суцэльны шкляны ці металічны чайнік без пластыкавых элементаў ці з іх мінімальнай колькасцю, – падсумоўвае спецыяліст.

**Якім бы чайнікам вы ні карысталіся – звычайным ці электрычным, – памятайце пра залатое правіла: кіпяціце менавіта столькі вады, колькі вам трэба, а не “пра запас”. Гэта дазволіць зэканоміць і ваду, і электраэнергію.**



Фота parents.com.

**Эколагі рэдка гатовыя адступіцца ад змагання з пластыкам. Адно з такіх выключэнняў – посуд для самых маленькіх. Тут спецыялісты пагаджаюцца на пластык, але толькі найвышэйшай якасці.**

### Запякаем і замарожваем у сіліконе

Першае, што трэба зрабіць пры выбары сіліконавай формы – уважліва прачытаць інфармацыю на ўпакоўцы. На ёй абавязкова павінна быць пазнака таго, што форму можна выкарыстоўваць для харчовых прадуктаў – гэта ўсім вядомая маркіроўка “келіх і відэлец”.

Да таго ж форма мусіць мець раўнамерны колер, без падцёкаў фарбы. А паверхня мае быць роўнай, без дэфармацый. Калі вы распакуеце форму, то не павінны адчуць ніякіх рэзкіх пахаў: сапраўдны сілікон не пахне.

Калі вы будзеце карыстацца формай у тых тэмпературных рэжымах, якія пазначаныя на ўпакоўцы, то такі посуд праслужыць вам доўгія гады.

– Сіліконавыя формы зручныя і для замарозкі, і для запякання, – кажа Дар’я Чумакова. – Гэта зручны, шматфункцыянальны і даволі экалагічна бяспечны матэрыял. Сам па сабе сілікон – гэта палімер, ён не вельмі добра раскладаецца. Таму набываючы такую форму, паклапаціцеся пра тое, каб карыстацца ёй як мага даўжэй.

### Каляровае лязо ў нажа – прыгожа, але ці бяспечна?

Падабраць нож пад колер посуду ці інтэр’еру цяпер не праблема: лязо керамічных нажоў фарбуюць ва ўсе колеры вясёлкі. Але падчас карыстання фарба з ляза пачынае сцірацца, а яе часцінкі могуць патрапіць у ежу. Як гэта можа адбіцца на арганізме?

– Фарба на лязе не мае ніякай функцыянальнай нагрузкі, – зазначае эксперт. – Яе кавалачкі сапраўды могуць трапляць у прадукты. Гэты момант пакуль навукова не даследаваны, таму складана рабіць адназначныя высновы. Але я рэкамендую выбіраць звычайныя нажы, без афарбоўкі ляза. Не варта выбіраць прадукт, бяспечнасць якога не даказалі.

### Днушкі для нарэзкі – любыя, толькі не пластыкавыя

Калі нашы бабулі найчасцей карысталіся драўлянымі днушкамі, то сучасны выбар можа збіць з панталыку – розныя віды дрэва, пластыку, шкла і каменю.

Эколагі ж заўсёды на баку натуральных матэрыялаў, а таксама тых, якія лёгка адрамантаваць ці аднавіць. У першую чаргу гэта дрэва.

– Дошкі з цвёрдых парод дрэва, напрыклад, сасны, – цудоўны і экалагічны выбар, – зазначае Дар’я Чумакова. – Нават калі вы карыстаецеся вельмі доўга, яе лёгка аднавіць: працерці содай з лімонным сокам і пакінуць сумесь на ноч. На раніцу апрацаваць дошку льняным алеем – яна будзе як новая! Знікнуць пахі і адновіцца знешні выгляд.

Якраз гэтай магчымасці аднавіць дошку не хапае пластыку. Каму з нас не знаёмыя драпіны і плямы на пластыкавай днушцы? Гэта не толькі непрыгожа, але і небяспечна – такая днушка становіцца вельмі прыдатным асяроддзем для размнажэння бактэрый. Да таго ж з пашкоджанага пластыку ў ежу могуць трапляць небяспечныя хімічныя элементы.

Папулярныя апошнім часам гнуткія дошкі таксама робяцца з розных відаў пластыку. Яны хутка зношваюцца і праз кароткі час становяцца смеццем, якое стагоддзямі будзе ляжаць на звалках.

Шкляныя днушкі – добры выбар з пункту погляду экалогіі. Але такі матэрыял вельмі хутка тупіць нажы, а гучны стук пры наразанні прадуктаў спадабаецца не кожнаму. Тое ж самае тычыцца і каменю – многім падабаецца раскачваць цеста на такім матэрыяле, а вось шынкаваць гародніну – далёка не ўсім.

### Малых дзяцей кормім з… пластыку!

Ледзь не адзіная рэч, у саставе якой эколагі не пратэстуюць супраць пластыку, – гэта посуд штодзённага карыстання для дзяцей да трох гадоў. Ён будзе найбольш зручным і аптымальным.

Адзіная агаворка: пластык павінны быць высокай якасці. На ўпакоўцы шукаем узроставую маркіроўку, а таксама пазнаку віду пластыку – самым бяспечным з’яўляецца пластык пад нумарам 5 ці поліпрапелен. Таксама шукаем значок “келіх і відэлец” – пераконваемся, што перад намі не дзіцячая цацка, а менавіта посуд для харчовых прадуктаў.

Не забываем звярнуць ўвагу на тэмпературную шкалу, якая пазначаная на ўпакоўцы. Яна падкажа, ці можна награваць ці замарожваць посуд. Зноў жа нюхаем посуд перад купляннем і глядзім, ці якасна нанесены малюнак, калі ён ёсць. Часцей за ўсё посуд, які адпавядае гэтым параметрам, можна набыць у аптэках ці спецыяльных дзіцячых крамах.

Для старэйшых дзетак лепей выбіраць посуд з керамікі ці фарфору. Але па-ранейшаму звяртаем увагу на малюнак.

– Лепей пазбягаць роспісу на дне талеркі ці на самым краі кубка, дзе дзіця дакранаецца вуснамі, – удакладняе Дар’я Чумакова. – Тады ў сцёртай эмалі менш шансаў патрапіць у ежу.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**



Архіў "РГ".



Фота забяспечана Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.




Фота забяспечана Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

**Школа Пілсудскага ў Камарове да нашага часу (2013) захавала першапачатковы выгляд. Сучасны стан Гінеўскай школы. Станцыя Ашмяны, помнік на месцы Дакурнішскай школы (2015).**

# Маршалкоўскія школы былога Ашмянскага павета

**АШМЯНЫ**

**Упершыню пра так званыя "школы Пілсудскага" мне прыйшлося даведацца з дзённіка "Лісткі календара" Максіма Танка.**

Паважаны паэт 12 мая 1936 года зрабіў наступны запіс: "Урад з нагоды пахавання сэрца Пілсудскага пастанавіў пабудаваць на "ўсходніх крэсах" сто школ імя маршалка – сто новых гнёзд паланізацыі... Аб асвеце тут гаварыць не даводзіцца".

Вядома, што толькі да верасня 1939 года гэтыя школы былі звязаныя з былой Польскай дзяржавай і яе палітыкай ў дачыненні да нашых зямель, пра якую і ўзгадваў Максім Танк. А як жа склаўся лёс гэтых школ у далейшым, як яны вытрымалі выпрабаванні часам? У краязнаўчых вандроўках пра гэтыя навучальныя ўстановы неаднойчы даводзілася чуць ад людзей старэйшага пакалення. Успаміналі жыхары сталага веку з прыемнымі пачуццямі пра навучанне ў гэтых школах. Напэўна, з той нагоды, што прыпадала вучоба на незабыўны час іх дзяцінства і маладосці. Вылучаліся школьныя будынкі запамінальнай архітэктурай, што таксама прыцягвала да іх увагу. Такая краязнаўчая тэма стала вартай уласнага даследавання, і пачаўся пошук матэрыялаў.

### Адкуль пайшлі школы Пілсудскага

Коратка нагадаю гісторыю з'яўлення школ Пілсудскага ў нашым краі. Напярэдадні гадавіны з дня смерці былога кіраўніка Рэчы Паспалітай Юзафа Пілсудскага, 11 мая 1936 года Рада міністраў на сваім пасяджэнні прымае рэзалюцыю пра пабудову на Віленшчыне ста новых паўшэхных школ з аднатыпнай назвай "Школа імя маршалка Юзафа Пілсудскага". У Ашмянскім павеце будуецца 9 школ, Браслаўскім – 15, Вілейскім – 11, Віленска-Трокскім – 19, Дзісненскім – 13, Маладзечанскім – 8, Пастаўскім – 11, Свянцянскім – 14. (У рэдакцыі "РГ" ёсць спіс школ па іншых паветах).

На працягу 1936-1937 навучальнага года на гэтыя патрэбы ўрад краіны выдаткоўвае адзін мільён злотых, з гэтай сумы Ашмянскаму павету дастаецца 104 тысячы злотых. Адначасова сам павет укладвае ў будаўніцтва ўласныя 79 тысяч злотых, якія гміны атрымалі ў якасці пяцігадовага будаўнічага крэдыту.

Пры выбары месцаў будаўніцтва школ у першую чаргу ўлічваліся найгоршыя ўмовы былых школьных будынкаў і невялікія ўласныя фінансавыя магчымасці гмін. Цікавым падаецца яшчэ адзін істотны момант. Для таннасці будаўніцтва было загадана павятовым аддзелам забяспечыць цэнтральную закупку будаўнічых матэрыялаў і сталярных вырабаў, пры гэтым патрабавалася, каб яны набываліся на месцы. Толькі ў выключных выпадках дазвалялася закупляць матэрыялы за межамі краю. Пры гэтым браўся ў разлік той факт, што выдаткаваны адзін мільён злотых застанецца на Віленшчыне.

Усе школьныя будынкі былі ўзведзеныя па тыпавых узорных праектах. Яны былі прыстасаваныя да кліматычных умоў Віленскага краю і маглі быць індывідуальна дапрацаваныя з улікам мясцовых патрэб кожнага населенага пункта. Пабудовы мелі трывалы вялікі падмурак, сцены выкладзеныя з якаснага дрэва, стромкі дах быў пакрыты цэментавай дахоўкай. На ашмянскай зямлі, як і ў большасці іншых мясцін, архітэктура школ вылучалася яшчэ адной характэрнай дэталлю.

**У рагу пабудоў, каля ганка, знаходзіліся шыкоўныя калоны.**

Светлыя ўтульныя класы і рэкрэацыі, белая кафля печаў і шырокія вокны пакідалі прыемнае ўражанне ў наведнікаў. Трэба заўважыць, што большасць школ пад адным дахам утрымлівала асобныя пакоі для кіраўніка установы. Паўсюдна гміны ахвяруюць на новыя школы вялікія пляцы ў 1-2 гектары, дзе ствараецца стадыён, закладваюцца сад і агарод, высаджваюцца па перыметры прысады дрэў.

Стараннямі мясцовых будаўнікоў у Ашмянскім павеце да верасня 1937 года было ўзведзена дзевяць школ, якія складаліся з 24 школьных будынкаў і 27 будынкаў для жылля. Тагачасныя школы былога павета і месцы ад іх існавання сёння апынуліся ў розных адміністрацыйных адзінках. З тэрыторыяй сучаснага Ашмянскага раёна звязаныя гісторыі школ у Гінеўцах, Граўжышках і на станцыі Ашмяны. Школа ў вёсцы Пашкі трапіла ў межы Літоўскай Рэспублікі, Гудагайская школа належыць Астравецкаму раёну, а школы ў Вішнеўцы, Суцкаве, Сукневічах і Кавалях апынуліся на Смаргоншчыне.

### Школа ў Гінеўцах

Найбольшая колькасць звестак на старонках старых газет прысвечаная школе ў Гінеўцах. Напэўна, гэта звязанае з актыўнасцю былых мясцовых карэспандэнтаў, якія аператыўна адлюстроўвалі галоўныя падзеі ў яе будаўніцтве. Прасачыўшы ход новабудоўлі ў гэтай мясціне, можна ўявіць, як разгортвалася праца ў іншых кутках Ашмянскага краю.

**Уладзімір ПРЫХАЧ.**

**Працяг будзе.**

**КАЛЯНДАР**

### 13 ЛІСТАПАДА

**210 гадоў** з дня нараджэння Эміліі Плятэр (1806 – 1831), беларускай фалькларысткі, удзельніцы паўстання 1830 – 1831 гадоў.

### 14 ЛІСТАПАДА

**100 гадоў** з дня выхаду (1916) у Петраградзе пад рэдакцыяй Цішкі Гартнага беларускай газеты "Дзянніца" (існавала да 13 студзеня 1917 г.)

### 17 ЛІСТАПАДА

**110 гадоў** з дня нараджэння Янкі Багдановіча (1906), пісьменніка, мемуарыста, вязня савецкіх канцлагераў. Нарадзіўся ў вёсцы Гірбінята Ашмянскага павета Віленскай губерні, цяпер Валожынскі раён. Пасля смерці бацькоў у 1918 годзе жыў і выхоўваўся ў Барунскім і Віленскім дзіцячых прытулках, якія былі арганізаваныя ў час Першай сусветнай вайны беларускай інтэлігенцыяй. У 1927 годзе скончыў Віленскую беларускую гімназію. Да 1941 працаваў у друкарні імя Скарыны. Публікаваўся з 1930 года. Адзін з выдаўцоў часопіса "Шлях моладзі" (1929-38). У гады Другой сусветнай вайны вучыўся ў Віленскай настаўніцкай семінарыі. У 1952-м паступіў у Нова-Віленскі педагагічны інстытут, але ў жніўні таго ж года арыштаваны і сасланы ў Варкуту. Рэабілітаваны ў 1956. Вярнуўся ў Вільню, дзе працягваў настаўнічаць. Скончыў педагагічны інстытут. Напісаў кніжку ўспамінаў, якая выйшла пасля яго смерці. Пахаваны на віленскіх могілках Саўлес.

**135 гадоў** назад у Вілейцы нарадзіўся Іван Шубін (1881 – 1937), савецкі ваенны дзеяч. Ад 1896 года быў рабочым Пуцілаўскага завода ў Петраградзе. Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне – унтэр-афіцэр. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ўступіў у 1917 годзе ў РКП(б) і з кастрычніка 1918 года служыў у Чырвонай Арміі – начальнік каманды конных разведчыкаў стралковага палка 17-й стралковай дывізіі. Удзельнік грамадзянскай вайны ў Расіі. Удзельнічаў у барацьбе з басмачамі. Узнагароджаны трыма ордэнамі Чырвонага Сцяга. У верасні 1937 года быў арыштаваны і прыгавораны як агент польскай разведкі да вышэйшай меры пакарання. 17 верасня 1957 года быў рэабілітаваны. Яго імем ў Вілейцы названая вуліца.

**150 гадоў** назад (1866) Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч стварыў фарс-вадэвіль "Пінская шляхта", жывучы ў фальварку Люцінка Валожынскага раёна.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Бацька спакушае мясам і ідзе на хітрыкі, каб ім накарміць

## Ці лёгка быць няпоўнай вегетарыянкай у сям'і, дзе ядуць мяса

МАЛАДЗЕЧНА

**Вольга Злотнікава ўпэўненая, калі чалавек хоча быць здаровым, трэба ўвесь час працаваць над сабой, сваімі слабасцямі, старацца весці здаровы лад жыцця.**



Фота забяспечанае Вольгай ЗЛОТНІКАВАЙ.

**Пасля таго як Вольга адмовілася ад мяса, не толькі адчула лёгкасць у страўніку, аднак і настрой палепшыўся.**

Дзяўчына працуе трэнерам па фітнесу, навучае ўсходнім танцам, ёзе, таму фізічныя нагрузкі ў яе рэгулярныя. Аднак, як лічыць Вольга, гэтага недастаткова, каб арганізм быў здаровы і чалавек адчуваў сябе камфортна.

У пэўны час яна зацікавілася здаровым харчаваннем, пачала чытаць адпаведную літаратуру, глядзець відэа са спецыялістамі ў інтэрнэце. Хутка ўпэўнілася: тое, чым харчуецца, не зусім карыснае для арганізма.

Першым крокам адмовілася ад шкоднай ежы, напрыклад, чыпсаў, ласункаў, стала больш пільна чытаць склад прадуктаў, якія набывае ў магазінах.

– У відэа па рацыянальным харчаванні ад многіх медыкаў я пачула, што мяса не такое карыснае, як можа падавацца большасці людзей, – расказвае Вольга. – Напачатку я адмаўляла гэта, як можна жыць без сакавіта падсмажанага кавалачка паляндвічкі альбо не пакаштаваць кілбаску ў гасцях. З цягам часу вырашыла ўсё ж такі паспрабаваць. Тым больш падумала пра бедных жывёлак, якіх з'ядаем для задавальнення свайго страўніка.

### У гасцях часам немагчыма ўстрымацца ад мяса

Жанчына не адмовілася раз і назаўсёды ад мяснога, паступова прывучала свой арганізм да новага рэжыму.

– Я ўпэўненая, калі адразу адмаўляцца ад таго, да чаго прывык з дзяцінства, карысці ад гэтага не будзе, – упэўненая Вольга. – Чыста псіхалагічна чалавеку будзе недаставаць любімага прадукту. Пачне дзейнічаць прынцып забароннага плода, які заўсёды смачнейшы. І праз некаторы час чалавек проста не вытрымае. За любую справу трэба брацца паступова.

Вось ужо цягам чатырох месяцаў Вольга – вегетарыянка.

– Я звычайны чалавек і, як усе, таксама маю свае слабасці, таму часам вельмі хочацца сарвацца, з'есці кавалачак мяса, – усміхаецца Вольга. – Асабліва наведваюць такія думкі, калі прыходжу ў госці. Звычайна ж у нас на мерапрыемствы гатуюць пераважна мясныя стравы ды так прыгожа аздабляюць, што часам немагчыма ўстрымацца, але пакуль удаецца.

Святочны стол Вольгі таксама не абыходзіцца без мясных страў. Трэба паважаць меркаванне і густы іншых людзей, упэўненая яна, таму нельга прымушаць есці тое, што гатуеш для сябе. Ёй бывае страшнавата, якая страва атрымаецца на смак, таму даводзіцца цалкам давяраць рэцэпту.

Мама Вольгі з паразуменнем паставілася да абранага ладу жыцця. А вось бацька ніяк не мог зразумець – як гэта без мяса, доўгі час ішоў на розныя хітрыкі, каб дачка з'ела хоць кавалачак. Аднойчы бульбу смажыў на тлушчы, а не на алеі. Пасля такіх хітрыкаў дзяўчына вырашыла гатаваць стравы сама.

Яна адзначае, што ў грамадстве далёка не ўсе людзі могуць успрыняць, што чалавек вядзе здаровы лад жыцця: правільна харчуецца, не ўжывае спіртнога, рэгулярна трэніруе цела. Вольга прызнаецца, што часам чуе крыўдныя пытанні, напрыклад, ты хворая, што не ясі мяса. Таму ў некаторых выпадках даводзіцца падтрымліваць кампанію, напрыклад, сядзець з бакалам якога-небудзь спіртнога. Пры гэтым яго не піць.

### Эканоміш на здароўі, адкладай грошы на таблеткі

– З таго часу, як стала вегетарыянкай, пакаштавала, напэўна, усе гатункі рыбы, якія ёсць у нашых магазінах, – дзеліцца Вольга. – Безумоўна, самая смачная – чырвоная. Набываю яе раз на тыдзень. У мяне няма мэты зэканоміць грошы, галоўнае, умацаваць здароўе, цела. Ды які сэнс эканоміі на сабе. Зэканоміш на прадуктах, не атрымаеш карысных элементаў для арганізма, праз некаторы час такая эканомія прывядзе да хваробы.

**Як прызнаецца дзяўчына, першы час, як адмовілася ад мяснога, адчувала невялікі голад. З часам прызвычаілася, апетыт стаў меншым.**

– Што самае незвычайнае для мяне – лёгкасць у страўніку, – дзеліцца назіраннямі Вольга. – Пры гэтым адчула яе не адразу, а прыкладна праз месяц новага ладу жыцця. Пры гэтым у мяне няма жорсткіх рамак наконт іншых прадуктаў. Неяк купіла сабе чыпсаў, з'ела невялічкую жменьку. Як жа пасля было дрэнна. Менавіта ў такія моманты і адчуваеш, наколькі важна правільна харчавацца.

Дзяўчына адзначыла, калі не набываць прадукты з відавочнымі дадаткамі, а праз некаторы час вярнуцца да звыклых прадуктаў, яны раскрываюцца па-новаму, нават падаецца, што смак узмацняецца.

Тым, хто толькі спрабуе адмовіцца ад мяса і перажывае, што будзе пакутаваць ад голаду, жанчына раіць есці арэхі, рыбу, сыр, бананы. Яны наталяюць голад не горш.

### Спачатку ешце вачамі, потым ротам

Вольга ўпэўнівае, што важна не столькі тое, што ты ясі, а як ты гэта робіш, элементарная культура харчавання.

– Напрыклад, на Усходзе любы прыём ежы ператвараюць у трапезу. І гэта мае рацыю, – дзеліцца досведам дзяўчына. – Як гэта ні дзіўна, ядзім мы нават тады, калі ў роце не было макавага зярнятка. Спачатку страваванне пачынаецца вачамі. Мы глядзім, наколькі прыгожа аздобленыя стравы, упрыгожаны стол. Пры гэтым мозг падае сігнал, што хутка можна есці. Страўнік пачынае рыхтавацца да гэтага, выдзяляе страўнікавы сок. Усё гэта садзейнічае лепшаму засваенню ежы. Калі есці павольна, то і асалоды атрымаеце ўдвая больш, і страўнік не атрымае лішняга. Культура харчавання паказвае адносіны чалавека да сябе самога: да здароўя, самаадчування.

**Тым, хто толькі спрабуе правільна харчавацца, дзяўчына раіць знайсці аднадумцаў, з якімі будзе значна прасцей і якія падтрымаюць, калі захочацца вярнуцца да ранейшага ладу жыцця.**

– Галоўнае, не спыняцца, – раіць яна. – А калі пачняце бачыць, адчуваць вынікі, гэта будзе натхняць, падштурхне прытрымлівацца пастаўленай мэты.



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

## Першымі на занальных, трэцімі на абласных гульнях КВЗ сталі навучэнцы з Вілейкі

ВІЛЕЙКА

Напачатку лістапада адбыліся занальны і абласны туры творчай акцыі КВЗ-2016 "Восенькі марафон".

У занальным туры ўдзельнічалі каманда Вілейскага дзяржаўнага каледжа "Фіксы", а таксама каманды Маладзечанскага, Мядзельскага і Валожынскага раёнаў.

Журы на чале з намеснікам старшыні камісіі па справах непаўналетніх **Алесяй Алексеевай** ацэньвалі агульны вобраз камандаў, змястоўнасць, гумар у выступленнях, здольнасці імправізаваць.

Каманды паказалі сябе ў конкурсах "Візітоўка", "Размінка", "Відэаролік", "Музычнае дамашняе заданне".

Падтрымлівалі выступоўцаў ансамбль "Танцавальны серпанцін" пад кіраўніцтвам **Ірыны Новік** і ўдзельнікі вакальнай студыі **Аляксандра Высоцкага**.

На думку журы, лепшымі сталі маладыя людзі з каманды "Фіксы", якую падрыхтаваў педагог каледжа **Леанід Курц**.

На абласных гульнях, што адбыліся 5 лістапада ў Барысаве, каманда "Фіксы" атрымала дыплом трэцяй ступені.

Пра гэта расказала педагог-арганізатар Вілейскага дзяржаўнага каледжа **Святлана Мацукевіч**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Раённы турнір знатакоў "Інтэлектуальная восень-2016" адбыўся ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

Напярэдадні асенніх канікулаў раённы клуб дзіцячых і моладзевых камандаў "Бронзавая сава" Вілейскага цэнтра дадатковай адукацыі зладзіў раённы турнір знатакоў сярод камандаў юненалаў.

У турніры ўдзельнічалі сем камандаў школ Вілейшчыны. Удзельнікі павінны былі адказаць на 45 пытанняў гульні "Што? Дзе? Калі?" на розныя тэмы.

Лепшай стала каманда "Фартуна" гімназіі №2. На другім месцы – каманда "Ніка" з гімназіі "Логас". Бронза – у каманды "Неасакрацікі" школы №3.

**Сяргей РЫЖЭВІЧ, культарганізатар Вілейскага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.**



Старшая медсястра педыятрычнага аддзялення №4 Святлана Драздова (злева)і медсястра дзіцячага садка №2 Зоя Цюрына складаюць справаздачу. Фота Аксаны Ярашонак.

# Заманьваю ў кабінет вітамінкай: медсястра дзіцячага садка – пра сваю працу

МАЛАДЗЕЧНА

**– Нам так прыемна, што і да нас нарэшце чарга дайшла, што і намі журналісты зацікавіліся. А то пра рэаніматолагаў ды хірургаў газеты пішуць. А пра нас яшчэ ні разу не пісалі.**

З такімі словамі сустрэлі мяне старшая медсястра педыятрычнага аддзялення №4 дзіцячай паліклінікі **Святлана Драздова** і медсястра па абслугоўванні дзяцей садка №2 **Зоя Цюрына.**

Святлана Драздова курыруе працу медсясцёр у дзіцячых садках Маладзечна. Па яе словах, у горадзе ў садках працуе 31 медсястра.

Працуюць пераважна жанчыны сярэдніх гадоў і пенсіянеры. Моладзь асабліва ісці не хоча. Чаму?

На думку Святланы Драздовай, каб ісці працаваць у садок, маладой медсястры трэба набыць пэўны досвед. А зрабіць гэта можна, працуючы ў стацыянары.

У дзіцячым садку медсястра працуе практычна самастойна. Далёка не ўсюды разам з ёй доктар-педыятр ёсць з раніцы да вечара. Звычайна ён прыходзіць толькі ў пэўныя дні. Без досведу працаваць нялёгка.

Паступова ў медыцынскіх кабінетах у садках пачынаюць устанаўліваць камп'ютары. Яны патрэбныя, перш за ўсё, для таго, каб складаць меню для дзяцей у электронным выглядзе.

– Гэта вельмі зручна, – далучаецца да размовы медсястра Зоя Цюрына. – Праўда, трэба ўдасканальваць сябе, вучыцца камп'ютарнай граматыце. Але без гэтага цяпер ніяк, упэўненая медсястра садка №2. Усе бацькі, па яе словах, сябруюць з інтэрнэтам. Часта не медыку пытанне задаюць, а ў інтэрнэце адказы шукаюць. А пасля прымаюць самастойныя рашэнні.

### Першая медыцынская дапамога – далека не першая ў працы медсястры

Што робіць медсястра ў садку, акрамя аказання першай медыцынскай дапамогі, калі дзіця разаб'е нос або калена? Аказваецца, такой дапамогі ў садку павінна быць як мага менш. Медработнік працуе на тое, каб першая дапамога дзецям не спатрэбілася.

Яшчэ медсястра сочыць за тым, каб выхаванцы не былі перагружаныя на фізкультурных занятках, распрацоўвае меню. Працуе з выхавальнікамі і бацькамі.

Педагогам трэба дапамагчы ў шматлікіх пытаннях. Напрыклад, падказаць, каб дзіця, якое часта хварэе, клалі спаць далей ад акна. Каб звярнулі ўвагу на ўзровень захворванняў у групах.

Працуючы шмат год у адным калектыве, медсястра адчувае сябе адзіным цэлым з педагогамі. Калі выхавальнікі плануюць дзень здароўя, у меню заўсёды з'яўляюцца вітаміны: ківі, апельсіны.

А часам і ў тэатральных пастаноўках, раніцніках прапануюць паўдзельнічаць. Медсястра заўсёды пагаджаецца.

– Асаблівых артыстычных дадзеных у мяне няма, але раз трэба, значыць, трэба, – зазначае жанчына.

Яшчэ медсястра арганізуе медагляд. Калі раней дактары-спецыялісты прыязджалі ў дзіцячы сад, то цяпер медагляд дзеці праходзяць з бацькамі ў паліклініцы. Гэта больш зручна, упэўненая медсястра. Бацькі адразу ж могуць задаць пытанні спецыялісту.

Калі выхаванец раптам захварэе ў садку, яго трэба хутчэй ізаляваць ад астатніх дзяцей. У медыцынскім кабінеце ёсць спецыяльны пакой. Называецца ён ізалятар.

– Назва страшнаватая, – кажа Зоя Цюрына. – Але там зусім не страшна, нават прыгожа. Ёсць дзіцячы ложак і столік для гульняў.

### Зрабіць прышчэпку дапамогуць цукеркі

У садку медсястра, атрымаўшы пісьмовую згоду бацькоў, робіць прышчэпкі ад грыпу пад наглядам доктара-педыятра. Працэдуру гэту прыемнай не назавеш. І на маё пытанне, як пазбегнуць дзіцячых істэрык, ёсць адказ.

Па яе словах, тут ніяк не абысціся без асаблівага падыходу, псіхалагічных здольнасцяў, педагагічных уменняў і... цукерак або вітамінак. Яны заўсёды ёсць у кабінеце.

Медсястра расказала, што за шматгадовую працу навучылася рабіць прышчэпкі амаль без дзіцячых слёз. Але, прызнаецца яна, ёсць такія выпадкі, дзе на прышчэпку без істэрыкі разлічваць не даводзіцца. І тады, па словах жанчыны, трэба са слязьмі, але хуценька. Больш смелыя потым самі зазіраюць у медыцынскі кабінет за вітамінкамі.

Здараецца, што дзеці цяжка прывыкаюць да дзіцячага садка. З раніцы ў некаторых групах чуецца плач. Тады выхавальнікі вядуць дзяцей у медыцынскі кабінет. Не, не палохаць. Просяць медсястру, каб як-небудзь супакоіла. Часам даводзіцца чуць: "Можа, дайце яму валяр'яначкі". Але шматгадовы досвед і асаблівы падыход дапамагаюць супакоіць і без валяр'янкі.

Пытаюся ў Зоі Іванаўны, ці ўцякаюць ад яе дзеці, калі медсястра ў белым халаце зазірае ў кабінет. Аказалася – не. Наадварот. Дзеці бягуць да яе, расказваюць пра тое, каму купілі новыя боцікі, у каго новае паліто, паказваюць цацкі.

А яшчэ калі Зоя Іванаўна заходзіць у групу, дзеці самі строяцца ў чаргу, падымаюць адзенне і паказваюць жывоцікі. Прывыклі, што медсястра часта заходзіць правяраць у іх скуру. Самае смешнае, што жанчыну сустракаюць так нават тады, калі яна заходзіць да малых зусім па іншай патрэбе.

Праца з дзецьмі натхняе і ўзбадзёрвае, лічыць Зоя Іванаўна. І на такой натхняльнай рабоце яна ўжо 20 год.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# 25 год сябруюць прафесійная школа з Эслінгена і каледж з Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

**Ужо 25 год выкладчыкі Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа маюць магчымасць назіраць за працай нямецкіх калег. А лепшыя навучэнцы – сяброўваць з аднагодкамі з Германіі.**

Ад 1991 года тады яшчэ педагогі ПТВ-135 пачалі супрацоўнічаць з прафесійнай школай імя **Кэтэ Кольвіц** з Эслінгена. Партнёрскія сувязі з маладзечанцамі наладзілі дырэктары нямецкай прафесійнай школы **Зігрыд Фрыцман, Берндт Шэперман, Томас Фішле.** Нязменнымі каардынатарамі сумесных праектаў сёння з'яўляюцца **Хельга Краўтэр** і **Эрнст Бёле.**

З беларускага боку ідэю сяброўства падтрымалі тагачасны дырэктар **Валеры Кузняцоў,** яго намеснік **Генрых Богдан** і выкладчык нямецкай мовы **Анатоль Войніч**. Сёння іх справу працягваюць **Дзмітры Богдан, Валянціна Гардзей, Алена Гіпаць.**

Па словах намесніка дырэктара па вучэбнай рабоце Алены Гіпаць, кожны год навучэнцы каледжа сустракаюцца са сваімі аднагодкамі з Германіі, якія вучацца ў прафесійнай школе Эслінгена.

Летась беларускія навучэнцы ездзілі ў госці ў Германію. А сёлета сем маладых людзей з Эслінгена прыязджалі ў Маладзечна. За ўвесь час супрацоўніцтва больш за 900 навучэнцаў і настаўнікаў каледжа пабывалі ў Германіі.

Калі ў Маладзечна прыязджалі нямецкія сябры, ім зладзілі экскурсіі. Маладыя людзі наведалі прадпрыемствы Маладзечаншчыны, былі ў Мінску, пабачылі сядзібу **Міхала Клеафаса Агінскага** ў Залессі.

Яшчэ хлопцы і дзяўчаты з Германіі прысутнічалі на тэарэтычных і практычных занятках у каледжы і нават спрабавалі адказваць на пытанні выкладчыкаў: у сваёй прафесійнай школе маладыя людзі набываюць падобныя спецыяльнасці.

Моўны бар'ер заўважны, лічыць Алена Гіпаць. Таму калі збіраюць беларускую дэлегацыю навучэнцаў для паездкі ў Германію, звяртаюць увагу на тое, каб яны добра вучыліся і больш-менш ведалі англійскую мову або нямецкую.

За час супрацоўніцтва нямецкія і беларускія выкладчыкі зладзілі шмат сумесных праектаў. Яны былі прысвечаныя нацыянальным стравам і напоям Беларусі і Германіі, стварэнню дапаможнікаў па вывучэнні нямецкай мовы.

У бліжэйшых планах – праекты, прысвечаныя музыцы, падарожжам, моладзі.

**Даведка "РГ".** Кэтэ Кольвіц – нямецкая мастачка, графік і скульптар. Нарадзілася ў 1867 годзе ў Кёнігсбергу. Вучылася ў Берліне і Мюнхене. У 1890 стварыла першыя афорты – металічныя гравюры, на якіх малюнак рабіўся з дапамогай кіслаты. Выкладала ў жаночым мастацкім вучылішчы ў Берліне. Ад 1910 года займалася скульптурай. У 1918 атрымала званне прафесара. Аўтарка шэрагу карцін, гравюр. Памерла ў 1945 годзе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**





Фота molgk.by

Сёння прафесійную школу імя Кэтэ Кольвіц узначальвае Томас Фішле.




# Аказваецца, сырнікі есці можна!

МАЛАДЗЕЧНА

**“РГ” сумесна з фітнес-клубам “Тытан” запусціла праект “Зорка з трэнажоркі”.**

Цягам трох месяцаў у газеце трэнер дае парады, як пахудзець, а я, слухаючыся яго ва ўсім, праверу парады на сабе.

За месяц у трэнажорнай зале я, можна сказаць, асвоілася.

Цяпер прыходжу не толькі пазаймацца, хаця гэта асноўнае.

Вось выпадак у панядзелак. Актыўна пазаймалася цэлую гадзіну, да бегавой дарожкі ледзьве дапаўзла, але з сабой жа плэер з любімай музыкай, бягу, напяваю сабе пад нос.

І тут раптам з-за спіны нечакана ўзнік трэнер **Руслан Дунец**:

– Ага, спяваем. Значыць, нагрузка была недастатковая. Трэба вас у наступны раз як след “качнуць”.

Больш спяваць на бегавой дарожцы не буду.

Акрамя ўдарных трэніровак, паступова знаёмлюся з іншымі супрацоўнікамі і супрацоўніцамі “Тытана”.

Я нават не ведаю, як наведнікі залы з іх выбіраюць асабістага трэнера, бо, шчыра кажучы, займацца хочацца з кожным.

Адна з “малодшых навуковых супрацоўніц”, так назваў Руслан Дунец трэнера **Караліну Лобач**, расказала, што, каб быць у форме і прытрымлівацца правільнага харчавання, зусім неабавязкова трымацца на адной грэчцы.

– Ой, каб трымаць сябе ў форме і есці смачна – тут варыянтаў маса.

Я і шарлотку пяку, і бісквіты, і кексы, і блінцы. Галоўнае, замяняць некаторыя шкодныя інгрэдыенты. Так, напрыклад, замест пшанічнай мукі я выкарыстоўваю аўсяную, рысавую, ільняную, кукурузную, яшчэ пратэін выдатна падыходзіць. А замест цукру – бескаларыйныя аналагі, напрыклад, стэвію ці ваніль.

**Рэцэпт карыснай піцы ад Караліны Лобач**

Аматарам піцы і прыхільнікам здаровага харчавання гэты рэцэпт прыйдзецца даспадобы.

Замяняем звычайную пшанічную муку на муку з цэльнага збожжа, шкодны і каларыйны кетчуп мяняем на перацёртыя памідоры з базілікам, сыр выкарыстоўваем не больш за 20% тлустасці, курыную грудку дадаём замест вяндліны.

*– 175 г мукі з цэльнага збожжа*

*– 125 мл вады*

*– 1 ч.л. сухіх хуткадзейных драждэжэй*

*– 1 ст. л. аліўкавага алею*

*– соль*

Падрыхтоўка: замешваем усе інгрэдыенты ў цеста. Абмазваем зверху цеста кропляй аліўкавага алею, ставім яго ў цёплае месца на 30 хвілін, каб даць крыху падняцца. Пасля гэтага яшчэ раз добра вымешваем і раскочваем у тонкі ліст, далей кладзём на бляху, папярэдне пасыпаўшы яе мукой.

Зверху па цесце выкладваем памідоры і дадаём любую начынку. Як варыянт: курыная грудка, памідоры, сыр 20%, перац, базілік.

Выпякаем у духоўцы пры 180-200 градусах прыблізна 20 хвілін.






Фота з суполкі “Маладзечна” vk.com

# “Маладзечна-ДЮСШ-4”: сезон завяршылі, форму раздалі

МАЛАДЗЕЧНА

**Апошні матч сезона 2016 года завяршыўся для маладзечанцаў паражэннем – 0:1 на карысць каманды “Нёман-Агра” са Стоўбцаў.**

Каманда “Маладзечна-ДЮСШ-4” завяршыла гэты сезон на пятым месцы.

Ці будзе яна прэтэндаваць на ўдзел у першай лізе, цяпер залежыць ад Федэрацыі футбола і ад іх запрашэння. І, вядома, ад кіраўніцтва горада, ці захоча яно бачыць сваю каманду ў другім дывізіёне.

Але, як ужо прывыклі маладзечанцы, больш за іншых да апошняга матча сезона былі гатовыя фанаты маладзечанскай каманды.

Яшчэ на апошняй дамашняй гульні фанаты каманды ўручылі свой асабісты кубак лепшаму гульцу сезона. Сёлета, па версіі фанатаў клуба, лепшым гульцом стаў **Арцём Грыб**.

А астатнія футбалісты падзякавалі сваім сапраўдным прыхільнікам за падтрымку наступным чынам – па дарозе дамоў, калі каманда вярталася са Стоўбцаў, фанаты спынілі аўтобус са спартсменамі і футбалісты падарылі сваю форму, а дакладней, майкі ад формы, фанатам.

– У наступным сезоне будуць гуляць у новай форме, – пракаментаваў падарунак заўзятар каманды **Дзмітры Рухлевіч.**

Ён жа і падсумаваў вынікі сезона.

## Ці трэба нам першая ліга? Так!

Упершыню за некаторы час Маладзечна на футбольных палях прадстаўляла ўсяго адна каманда. На чэмпіянат Мінскай вобласці каманда не выстаўлялася, а значыць, маладыя выхаванцы ДЮСШ-4 маглі паспрабаваць свае сілы ўжо на рэспубліканскім узроўні і навязаць канкурэнцыю сваім больш дасведчаным аднаклубнікам і прабіцца ў асноўны склад каманды.

Адмовіўшыся ад мінскіх легіянераў, каманда правяла цалкам роўны сезон, не зусім удала стартаваўшы. Мы неўзабаве нагналі упушчанае і занялі месца ў тройцы прызёраў. На жаль, месца, якое не змаглі ўтрымаць у выніку дзвюх няўдалых вочных сустрэч у канцы сезона, і як вынік – пятае месца з 13 камандаў.

Ці можна меркаваць пра ўвесь сезон толькі па няўдалай яго канцоўцы? Не.

За гэты год шмат гульцоў сталі гуляць больш упэўнена, а ўчарашнія выхаванцы ДЮСШ атрымалі гульнявы досвед, які ім бы не даў той жа чэмпіянат вобласці.

Што далей? Толькі далейшыя крокі ў плане развіцця нашай каманды, бо хоць мы і не патрапілі ў прызавую тройку, не заваявалі прамой пуцёўкі ў першую лігу, але верагоднасць запрашэння на павышэнне ёсць.

Нагадаю, што ФК “Ашмяны” ў мінулым годзе таксама заняў толькі пятае месца, а гэты сезон правёў рангам вышэй.

Ці трэба нам гэта? Так! І для далейшага развіцця гульцоў, і для гісторыі маладзечанскага футбола і, вядома ж, неабходна заўзятарам нашай каманды. Менавіта яны больш за 10 гадоў чакаюць вяртання клуба на больш высокі ўзровень. Стотысячны горад годны большага, чым другая ліга. А ў тым, што нашы хлопцы змогуць годна паказаць горад і ў першай лізе, асабіста я не сумняваюся.

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

## “Смаргонь” фінішавала пятай

СМАРГОНЬ

Чарговы матч у першай лізе чэмпіянату Беларусі па футболе “Смаргонь” 29 кастрычніка правяла дома. Гаспадары перамаглі 1:0 “Ліду” .

Адзіны гол забіў **Максім Яблонскі**. На 74-й хвіліне ён ударыў з межаў штрафной, і мяч ад штангі апынуўся ў сетцы варот.

У заключным туры чэмпіянату “Смаргонь” 5 лістапада гуляла ў гасцях са “Слонімам“. Матч завяршыўся ўнічыю 2:2.

“Смаргонь” набрала 38 ачкоў і заняла пятае месца ў чэмпіянаце.

## Гульцоў “Смаргоні” выклікалі ў моладзевую зборную Беларусі

СМАРГОНЬ

Трэнерскі штаб выклікаў у зборную, складзеную з футбалістаў, не старэйшых за 1996 год нараджэння, 20 футбалістаў. У іх ліку паўабаронцы ФК “Смаргонь” Максім Яблонскі і **Аляксей Тараканаў**, паведамляе прэс-служба клуба.

Збор праходзіць ад 7 да 11 лістапада. Адразу каманда трэніравалася ў Мінску. 11 лістапада адбудзецца таварыскі матч супраць аднагодкаў з Украіны.

## Працягваецца міжрэгіянальны турнір

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

Прайшлі гульні другога і трэцяга тураў міжрэгіянальнага турніру па міні-футболе ў Мядзеле. Па інфармацыі суполкі “ЗОЖ Мядзельшчыны” “Укантакце”, 29 кастрычніка “Фламетр” з Вілейкі перамог “Спадарожнік” 8:5, “ФАЦ” прайграла “Мядзелу” 1:7, “Паставы” саступілі “Шылавічам” 4:5.

У трэцім туры 5 лістапада “ Мядзел” перамог “Шылавічы” 3:2, “Паставы” згулялі ўнічыю з камандай “Зубраня” 4:4, а каманда “ФАЦ” перамагла “Спадарожнік” 3:1.

**Аддзел інфармацыі.**

● ГАРАСКОП
11-17 ЛІСТАПАДА

**Авен.** Вельмі цікавы перыяд. Перад вамі адкрываюцца новыя магчымасці. Добра прагназаваць падзеі і рыхтавацца да якой-небудзь дзейнасці. Вы лёгка можаце зразумець задумы чалавека і тое, да чаго могуць прывесці адносіны з ім.

**Цялец.** У вас прачынаецца дыктатар, што добра для дасягнення мэт і прасоўвання ўласных ідэй, але гэта не вельмі добра можа адбіцца на ўласным жыцці. Цяпер аддайцеся на волю лёсу, давяраючы яму рашэнні ўсіх важных пытанняў.

**Блізняты.** Вы доўга будзеце адчуваць сябе на кані. Спрыяльны час для тых, хто хоча адным махам усё вырашыць.

**Рак.** Адкрываюцца новыя магчымасці, і калі зрабіць правільныя крокі, то падзеі прынясуць немалы поспех і наблізяць вас да запаветнай мэты.

**Леў.** Вас чакаюць сур’ёзныя перамены ва ўласным жыцці.

**Дзева.** Спрыяльны час для духоўнага развіцця ці проста прыемных зносін з чалавекам, які можа вас многаму навучыць.

**Шалі.** Добра б вам наладзіць адносіны ў сям’і, правесці з роднымі хоць выхадныя, бо ім патрэбная ваша падтрымка і ўвага. Дазвольце сабе радавацца жыццю.

**Скарпіён.** Не адстойвайце свае пазіцыі, старайцеся быць мякчэйшымі і да сябе, і да іншых. Энергічнае прыняцце рашэнняў адносна дома пасадзейнічае заўважным пераменам. І тады жыццё падорыць вам шмат станоўчых эмоцый.

**Стралец.** Ваша жыццё не такое дрэннае, як вам здаецца. Трэба толькі знайсці ў сабе сілы, каб азірнуцца і самастойна пераканацца ў гэтым. У сукупнасці эмацыйныя і фізічныя сілы прывядуць вас да таго, што вы многа дасягняце.

**Казярог.** Бярыце эмоцыі пад кантроль, цалкам абстрагуйцеся і дзейнічайце выключна па загадзе сэрца.

**Вадалей.** Мы не заўсёды цэнім тое, што ёсць, імкнёмся валодаць большым ці хаця б проста чымсьці новым. Удзяліце час не толькі ўцехам, але і роздумам аб сэнсе жыцця і адносінах, аб іх месцы і ролі ў жыцці.

**Рыбы.** Вашы пазнанні ў пачуццях і думках іншых людзей настолькі вялікія, што вы можаце заняцца платнымі кансультацыямі. Толькі не іграйце на чужых эмоцыях, бо ад гэтага будзе залежаць ваша далейшае жыццё.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**




# Салата з фасоляй і кукурузай

*300 г адваранага курынага філе, 200 г фасолі, ці бляшанка кансерраванай, 150 г цвёрдага сыру, бляшанка кансерваванай кукурузы, 3-4 марынаваныя агуркі, 3 лустачкі чорнага хлеба, 1 зубок часнаку, соль, маянэз, пучок пятрушкі.*

Часнок пачысціце і прапусціце праз прэс. Лустачкі чорнага хлеба натрыце соллю і часнаком. Нарэжце кубікамі і падсушыце на патэльні без алею.

Курынае філе нарэжце невялікімі кавалачкамі. Марынаваныя агуркі – кубікамі.

З кукурузы зліце вадкасць. Сыр надзярыце на буйной тарцы. Пятрушку вымыйце, абсушыце, адрэжце доўгія сцябліны, а зеляніну дробна парэжце.




Фота per4ik.net

У салатніку змяшайце ўсе інгрэдыенты. Запраўце маянэзам і перамяшайце. Смачна есці.

**Проста МАРЫЯ.**







● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | | | | 7 | | | | 4 |
| 7 | 9 | 3 | | | 2 | | | |
| 8 | | | | | | 2 | | |
| 1 | | 8 | 2 | 9 | | | | |
| | | | 6 | | 4 | | | |
| | | | | 1 | 3 | 7 | | 2 |
| | | 5 | | | | | | 8 |
| | | | 8 | | | 6 | 5 | 1 |
| 2 | | | | 5 | | | | 7 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# І ў 50 гадоў мецць скуру рук, як у маладой дзяўчыны




Ад 3 да 6 лістапада ў Мінску прайшоў дзявяты Міжнародны фестываль прыгажосці “Ружа вятроў HAIR - 2016”. У цырульніцкім майстэрстве, дэкаратыўнай касметыцы і пазногцевым сервісе змагаліся каманды з Расіі, Казахстана, Украіны і Беларусі.

Адной з удзельніц стала выкладчыца вучэбнага цэнтра “Сфера прыгажосці” **Марына Сіняўская**. Яна перамагла ў шэрагу намінацый: атрымала золата за мужчынскі манікюр, срэбра за базавае мадэляванне пазногцяў, прызавое месца за фантазійную фотаработу.

Летась у аналагічным чэмпіянаце візажыст **Святлана Прадуха** стала абсалютным чэмпіёнам краіны па дэкаратыўнай касметыцы.

Чытачам “РГ” Марына Сіняўская дала парады, як даглядаць за пазногцямі і рукамі восенню і зімой, калі скура найбольш уразлівая.

### Што можна рабіць самастойна?

1. Выконвайце дамашнюю работу толькі ў пальчатках, нават калі чысціце бульбу.

2. Выкарыстоўвайце ахоўныя крэмы за 30 хвілін да выхаду з дому. На ноч – увільгатняльныя крэмы, для кутыкулы – касметычныя, а таксама ўвільгатняльныя алеі.

3. Ні кроку на вуліцу без пальчатак. Яны не толькі абароняць скуру, але і ўпрыгожаць вобраз.

4. Раз на тыдзень рабіце ванначкі з марской соллю ці лімонным сокам. Гэта дапаможа пазбегнуць слаення і ломкасці пазногцяў.

5. Пажадана рабіць у салонах і манікюрных кабінетах спа-догляд. Ён уключае у сябе скрабіраванне, маску і парафінатэрапію ў тэрмапальчатках.

Навучанне спа-догляду ўваходзіць у праграму вучэбнага цэнтра “Сфера прыгажосці” па накірунку “майстар па манікюры і педыкюры 3 разраду”.

– Даглядаць за рукамі і пазногцямі неабходна ў любым узросце, – заўважае спецыяліст. – Часта можна сустрэць жанчын 50 гадоў са скурай маладой дзяўчыны, але ёсць і маладыя жанчыны з састарэлай скурай і недагледжанымі пазногцямі.

Варта нагадаць і мужчынам, што даглядаць за рукамі – гэта не сорамна.

### Як часта трэба рабіць манікюр і педыкюр восенню і зімой?

Ёсць меркаванне, што зімой людзі менш даглядаюць за сабой, таму што ходзяць у шапках і цёплым адзенні. Гэта не так, хто рабіў гэта летам, той не змяняе свае звычкі і зімой.

**Манікюр рэкамендавана рабіць раз у два тыдні. Педыкюр – раз у паўтара-два месяцы.**

Лепш, калі вы атрымаеце індывідуальныя парады ад майстра. Памятайце, пры выбары спецыяліста звярніце асаблівую ўвагу на выкананне ім санітарна-тэхнічных нормаў, бо пры працы з пазногцямі ёсць вялікая рызыка занесці інфекцыі, грыбок, у тым ліку і гепатыт.

**Рабіце свой выбар на карысць легальных паслуг, салонаў і кабінетаў, якія прайшлі сертыфікацыю.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 12 лістапада, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -4 | | -3 | | -2 | | -2 | |
| | -4 | | -1 | | 0 | | 0 | |
| | 740 | ↘ 4 | 745 | ↘ 3 | 744 | ↘ 3 | 750 | ↘ 3 |
| Вільня | -3 | | -4 | | -1 | | -1 | |
| | -4 | | 0 | | 0 | | +1 | |
| | 750 | ↘ 2 | 754 | → 3 | 753 | ↘ 2 | 759 | ↘ 2 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.37
Захад 17.16
Даўжыня дня 8.39

Усход 16.42
Захад 5.02
Квадра 2




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -13,1 °С у 1993 годзе
Максімальная тэмпература +12 °С у 1977 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 26,7 мм у 2015 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Што было б, каб загалоўкі класічным беларускім творам прыдумвалі журналісты? Забаўны эксперымент ад карэспандэнтаў "РГ" чакайце ў наступным нумары.**

●АНОНС

## Запрашаюць на сустрэчу для маладых літаратараў

МАЛАДЗЕЧНА

29 лістапада а шостай гадзіне вечара ў малой зале Палаца культуры адбудзецца творчая сустрэча для тых, хто спрабуе свае сілы ў літаратурнай творчасці.

Падчас яе пройдзе прэзентацыя трэцяга зборніка "Мы гаворым пра жыццё", у які ўвайшлі работы ўдзельнікаў літаратурнага конкурсу-фестывалю "Час жыць-2016". На сустрэчу завітаюць паэты і блогеры рэгіёна.

Вас чакаюць жывое слова і музыка, інтэрактыўная імправізацыя. Падчас мерапрыемства вы даведаецеся пра новыя імёны на літаратурным небасхіле.

Арганізатарам мерапрыемства выступіў клуб кантактаў і творчасці "Дыялог+".

**Аддзел інфармацыі.**

## Комплекс "Заброддзе" запрашае на ваенна-гістарычную рэканструкцыю

ВІЛЕЙКА

У суботу, 12 кастрычніка, у мемарыяльна-этнаграфічным комплексе "Заброддзе" правядуць ваенна-гістарычную рэканструкцыю, прысвечаную заканчэнню Першай сусветнай вайны.

<u>У праграме:</u>
- паніхіда на Брацкіх могілках ля Заброддзя
- крыжовы ход да Барысаглебскай капліцы
- малебен "перад боем"
- ваенна-гістарычная рэканструкцыя з удзелам конніцы
- музычна-паэтычная праграма
- салдацкая кухня

Месца правядзення: мемарыяльна-этнаграфічны комплекс "Заброддзе" ў вёсцы Заброддзе Вілейскага раёна на левым беразе ракі Нарачанкі.

Пачатак у 12:30.

**Аддзел інфармацыі.**

● ПРОСТА АНЕКДОТ

– Алё! Я куды патрапіў? – Вы патрапілі не туды! Паслаць вас куды трэба?

***

Вярблюд-сын і вярблюд-бацька:
– Тата, а навошта нам на спіне горб?
– Там мы накопліваем ваду і калі ідзём па пустыні, не хочам піць.
– Тата, а навошта нам капыты?
– Каб ісці па пяску і ногі не правальваліся.
– Тата, а навошта нам вялікія вусны?
– Каб можна было ў пустыні калючкі есці.
– Тата, а нафіга нам усё гэта ў заапарку?..

***

Маленькі хлопчык выкідвае ў акно акварыум і гучна лаецца.
Прахожы пытаецца:
– Навошта ты акварыум у акно выкінуў?
– Лухта! Паўсюды лухта! Мне змянілі наконт Карлсана, Пятачка і Дзеда Мароза. Дык яшчэ атрымалася, што марская свінка мала таго, што не плавае... – выкідвае ў акно кулінарную кнігу. – Яна ўвогуле не свіння!

***

Тры стадыі беларускай беднасці:
1. Няма грошай.
2. Зусім няма грошай!
3. Трэба ісці здаваць долары.

***

У беларускай вёсцы камісар праводзіць харчразвёрстку.
– Ну што, не шкада вам коровы для рэвалюцыі?
– Не шкада, пан афіцэр.
– А каня не шкада для рэвалюцыі?
– Не шкада, пан афіцэр.
– А свіней не шкада для рэвалюцыі?
– Не шкада, пан афіцэр.
– Ну, а курыцу?
– А курыцу шкада.
– Гэта з чаго так?
– Ну дык, пан афіцэр, кароў, коней і свіней у нас няма...

***

– Вова, які прадмет табе падабаецца ў школе?
– Мабільнік у фізіка!

***

У маладзёна на пінжаку два значкі-ромбікі. Заходзіць у трамвай, а там бабулька пытаецца:
– Хлопча, а што гэта за значкі?
– Гэта значыць, што атрымаў вышэйшую адукацыю.
– А чаго ў цябе два значкі?
– А я, бабуля, дзве вышэйшыя адукацыі атрымаў.
– Хіба ты дурнаваты, што з першага разу не дайшло?



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці патрэбныя дамы для састарэлых?



**Юлія Гіль, у дэкрэтным адпачынку:**
– Яны павінны быць абавязкова. Часам дзеці не хочуць даглядаць сваіх састарэлых бацькоў. А чалавек мае права на годную старасць. Калі не дзеці, хай хоць дзяржава паклапоціцца. І будзе каму падаць гарачага супу і шклянку чаю.



**Вадзім Пагодзін, доктар:**
– Такія ўстановы павінны быць. Пакуль у грамадстве існуе меркаванне, што дзеці павінны даглядаць бацькоў. У ідэале, напэўна, так і трэба. Але бываюць розныя сітуацыі.



**Наталля Лосева, цырульніца:**
– Былі і будуць гэтыя дамы. Не заўсёды можна асуджаць моладзь, якая не хоча або не можа даглядаць старых.



**Аляксандр Салагуб, пенсіянер:**
– Бывае так, што дзеці не могуць і працаваць, і бацькоў даглядаць. Такія дамы ёсць паўсюль. У Францыі яны называюцца "Дамы пенсіянераў". Там выдатныя ўмовы. І нават багатыя дзеці аддаюць туды сваіх бацькоў. А на выхадныя забіраюць.



**Святлана Лісавая, педагог:**
– У ідэальным грамадстве ні дзіцячых дамоў, ні дамоў для састарэлых быць не павінна. Але ж мы – не ідэальнае грамадства.



**Алена Шпуро, у дэкрэтным адпачынку:**
– Я дакладна нікога са сваіх блізкіх не аддала б. Але ж дзеці розныя бываюць.



**Людміла Філіпенка, прадавачка:**
– Патрэбныя, адназначна. Лепш старым людзям жыць у больш-менш камфортных умовах, чым бадзяцца па вуліцы.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№46 (1124) 11.11.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1097 . Падпісана ў друк у 9.00 10.11.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.